ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (116) лістапад 2020 год

CATHOLICNEWS.BY

## Зварот Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі на ўрачыстасць

# Езуса Хрыста, Валадара Сусвету



**Глыбокапаважаныя святары і кансэкраваныя асобы,**
**Дарагія браты і сёстры!**

У апошнюю нядзелю літургічнага года Касцёл адзначае ўрачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету. Мы, каталіцкія біскупы Беларусі, жадаем асаблівым чынам прывітаць вас у гэтую ўрачыстасць і скіраваць да вас свой зварот.

Бог заклікае кожнага чалавека да святасці. Аднак асаблівыя пакліканні на шляху да святасці — гэта святарскія і манаскія пакліканні, бо яны не толькі служаць уласнаму асвячэнню, але і з'яўляюцца дарам Божай любові для ўсёй супольнасці Божага народа, для ўсіх нас. Касцёл нястомна запрашае ўсіх далучыцца да клопатаў пра пакліканні да спецыяльнага служэння ў Касцёле. Ён запрашае нас маліцца аб дары пакліканняў, аб мужнасці для тых, каго Бог кліча, аб іх вернасці быць сведкамі Божай праўды і Божай любові — сведкамі Езуса Хрыста, добрага Пастыра.

У наступным 2021 годзе Каталіцкі Касцёл у Беларусі будзе адзначаць 30-годдзе адраджэння структур. Гэта цудоўная нагода, каб заўважыць тое добрае, што было супольна здзейснена, а таксама, каб пераасэнсаваць намаганні і вызначыць новыя кірункі дзейнасці. Адным з прыярытэтных накірункаў будзе яшчэ большы клопат пра пакліканні, таму што заўважаецца вялікі недахоп святароў і кансэкраваных асобаў у Беларусі.

На 79-м пленарным пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, якое адбылося 15 кастрычніка 2020 г., было прынята рашэнне распачаць ініцыятыву «Духоўная ўспамога святарскіх і манаскіх пакліканняў у Беларусі», каб у нашым краі заўсёды хапала "работнікаў жніва", — святых, мужных і непахісных у веры. Гэтая дабравольная ініцыятыва распачынаецца ў нядзелю Пана нашага Езуса Хрыста, Валадара сусвету ва ўсіх парафіях Беларусі. Але, калі па нейкіх прычынах, хтосьці не зможа распачаць малітвы з 22 лістапада, то далучыцца да гэтай малітоўнай ініцыятывы можна ў любы момант. Галоўнае — пачаць шчыра маліцца аб пакліканнях да святарскага і манаскага жыцця.

**Тым, хто пажадае далучыцца да ініцыятывы, неабходна дабравольна прыняць на сябе абавязак, каб на працягу 3 месяцаў, 6 месяцаў ці 1 года — па жаданні:**

• маліцца кожны дзень таямніцу Святога Ружанца «Спасланне Духа Святога» ў інтэнцыі новых святарскіх і законных пакліканняў у Беларусі;
• хаця б адзін раз у месяц удзельнічаць у Эўхарыстыі і ахвяроўваць святую Камунію ў інтэнцыі новых святарскіх і законных пакліканняў у Беларусі;
• чытаць штодзённую малітву аб святарскіх і законных пакліканнях у Беларусі.

Інфармацыя пра ініцыятыву «Духоўная ўспамога святарскіх і манаскіх пакліканняў у Беларусі» змешчана на партале «Catholic.by», у часопісе «Ave Maria», газеце Гродзенскай дыяцэзіі «Слова жыцця», газеце Віцебскай дыяцэзіі «Каталіцкі веснік» і рэлігійным часопісе «Дыялог». Надрукаваныя таксама адмысловыя абразкі з тэкстам абяцання і штодзённай малітвы.

Папа Бэнэдыкт XVI у сваёй кнізе «Езус з Назарэта» зазначае, што «жняцоў на Божай ніве немагчыма проста знайсці, так, як працадаўца шукае патрэбных людзей; яны заўсёды павінны быць вымалены ў Бога і Ім самім выбраныя для гэтага служэння».

Нам усім варта пераасэнсаваць сваю адказнасць за будучыню Касцёла ў Беларусі і прысвяціць Пану Богу больш часу на малітву, дбаючы пра пакліканне ў нашых парафіях і асабліва ў сем'ях. Бо, дзякуючы шматлікім і святым пакліканням да святарскага і манаскага жыцця, Валадарства Хрыста ў нашай Краіне будзе пашырацца і расці.

На справу «Духоўнай успамогі святарскіх і манаскіх пакліканняў у Беларусі» ад усяго сэрца благаслаўляем.

Мінск, 4 лістапада,
ва ўспамін св. Караля Барамэя, біскупа.

Каталіцкія Біскупы Беларусі

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**
Старшыня Канферэнцыі
Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі

**Біскуп Аляксандр Яшэўскі, SDB**
Старшыня Камісіі па справах фармацыі семінарыстаў і святароў
пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі

**P.S.** Паважаныя святары няхай прачытаюць дадзены зварот падчас аб'яваў на кожнай Святой Імшы ва Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету 22 лістапада 2020 года.



## Хору "Гасанна" – 20 гадоў!



Стар. 8

## Гісторыя стварэння інстытута Упаўнаважаных Савета па справах рэлігій у БССР

Стар. 4-5



## Дыктатары паміраюць, а Касцёл трывае вечна



Стар. 3

Больш матэрыялаў чытайце на сайце **Catholicnews.by**



# Папа Францішак: «гомасексуальны шлюб» — гэта недарэчнасць, але людзі ў кожнай сітуацыі павінны быць юрыдычна абаронены

**Каталіцкія біскупы ў Беларусі даводзяць да ведама вернікаў кампетэнтнае тлумачэнне, карыснае для належнага разумення словаў Папы Францішка адносна так званых «гомасексуальных саюзаў».**

Нядаўна ў многіх СМІ з'явілася інфармацыя пра тое, што Папа Францішак нібы выказаўся ў падтрымку саюзаў, заключаных асобамі аднаго полу.

Не сакрэт, што ў некаторых краінах падобныя саюзы юрыдычна замацаваныя, хоць, у адпаведнасці з вучэннем Касцёла, іх нельга разглядаць як сям'ю, якой яны насамрэч не з'яўляюцца згодна з Богам устаноўленым натуральным законам. Не сакрэт таксама і тое, што пэўныя сілы, у тым ліку і ў Беларусі, няспынна стараюцца сцерці ў масавай свядомасці тое, што сужэнства, або, карыстаючыся свецкай тэрміналогіяй, шлюб — гэта саюз мужчыны і жанчыны, і ні ў якім выпадку не форма сужыцця асоб аднаго полу. Для гэтага яны ідуць на розныя хітрыкі, не цураючыся маніпуляцый.

Менавіта ў выніку падобнай маніпуляцыі некаторыя сцвярджэнні, якія ўтрымліваюцца ў дакументальным фільме «Francesco» («Францішак»), знятым амерыканскім прадзюсерам і рэжысёрам савецкага паходжання Яўгенам Афінееўскім, нядаўна выклікалі розную рэакцыю і розныя інтэрпрэтацыі.

Што ж сказаў Папа насамрэч і няўжо штосьці змянілася ў каталіцкім веравучэнні наконт сужэнства і сям'і?

Больш за год таму Папа Францішак, даючы інтэрв'ю, адказаў на два асобныя пытанні ў два розныя моманты, якія ў названым дакументальным фільме былі змантаваныя і прадстаўленыя як адзін адказ без належнага кантэксту, што і выклікала непаразуменне. Напачатку Святы Айцец зрабіў пастырскую заўвагу адносна неабходнасці таго, каб у коле сям'і сын або дачка з гомасексуальнай арыентацыяй ніколі не дыскрымінаваліся. Да гэтага адносяцца словы «Las personas homosexuales tienen derecho a estar en la familia; son hijos de Dios, tienen derecho a una familia. No se puede echar de la familia a nadie, ni hacer la vida imposible por eso» («Гомасексуальныя асобы маюць права быць у сям'і; яны — дзеці Божыя, маюць права на сям'ю. Нельга выганяць з сям'і нікога, ані рабіць жыццё немагчымым з-за гэтага»).

Наступны абзац паслясінадальнай Апостальскай адгартацыі пра любоў у сям'і Amoris lætitia (2016 г.) можа праліць святло на такія выразы: «Разам з айцамі Сінода я звярнуў увагу на сітуацыю сем'яў, у якіх ёсць асобы з гомасексуальнымі схільнасцямі — гэта нялёгкі і для бацькоў, і для дзяцей досвед. Таму хочам найперш пацвердзіць, што кожная асоба, незалежна ад сваёй сексуальнай схільнасці, павінна шанавацца з увагі на сваю годнасць і прымацца з пашанаю і клопатам, каб пазбегнуць „розных праяў несправядлівай дыскрымінацыі", асабліва розных форм агрэсіі і насілля. Што датычыць сем'яў, то трэба ім гарантаваць поўнае пашаны суправаджэнне, каб асобы з гомасексуальнымі схільнасцямі мелі неабходную дапамогу ў зразуменні і поўнай рэалізацыі волі Бога ў іх жыцці» (п. 259).

Наступнае пытанне інтэрв'ю датычылася дзяржаўнага закона дзесяцігадовай даўніны ў Аргентыне «Matrimonios igualitarios de parejas del mismo sexo» («Раўнапраўныя шлюбы пар аднаго полу») і нязгоды з ім тагачаснага арцыбіскупа Буэнас-Айрэса. На гэтую тэму Папа Францішак заявіў, што «es una incongruencia hablar de matrimonio homosexual» («недарэчна гаварыць пра „гомасексуальны шлюб"»), дадаўшы, што ў гэтым канкрэтным кантэксце ён казаў пра права гэтых асоб быць абароненымі законам: «lo que tenemos que hacer es una ley de convivencia civil. Tienen derecho a estar cubiertos legalmente. Yo defendí esso» («што мы лічым патрэбным зрабіць, гэта закон пра грамадзянскае сужыццё. Яны маюць права быць абароненымі законам. Я адстойваў гэта»).



Святы Айцец выказаўся такім чынам падчас інтэрв'ю ў 2014 годзе: «Шлюб — паміж адным мужчынам і адной жанчынай. Свецкія дзяржавы жадаюць легалізаваць грамадзянскія саюзы, каб рэгуляваць розныя эканамічныя аспекты паміж асобамі, як, напрыклад, забеспячэнне медыцынскай дапамогі. Гаворка ідзе пра дамовы сужыцця рознай натуры, разнастайныя формы якіх я не мог бы пералічыць. Неабходна разгледзець розныя выпадкі і ацэньваць іх ва ўсёй разнастайнасці».

Такім чынам, відавочна, што Папа Францішак меў на ўвазе акрэсленыя дзяржаўныя распараджэнні, і дакладна не вучэнне Касцёла, шмат разоў пацверджанае на працягу гадоў.

*Catholic.by*

# Пантыфік правёў размову з Джо Байдэнам

**12 лістапада 2020 г. адбылася тэлефонная размова паміж папам Францішкам і Джо Байдэнам, — пацвердзіў інфармацыю, распаўсюджаную амерыканскімі СМІ, кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы Матэа Бруні.**



Выданне USA Today паведаміла, што Байдэн падзякаваў Папу за віншаванні і благаслаўленне. Палітык запэўніў Францішка ў жаданні супрацоўнічаць, "на падставе супольнай веры ў годнасць і роўнасць усяго чалавецтва, у такіх пытаннях як кліматычныя змены, прыняцце мігрантаў і бежанцаў у Злучаных Штатах, увага да маргіналізаваных і бедных людзей".

Джо Байдэн мае ірландскія карані, вучыўся ў каталіцкай школе, неаднаразова прызнаваўся ў сваёй веры, рэгулярна ўдзельнічае ў св. Імшы ў невялікім касцёле ў сваім родным горадзе Уілмінгтон, у штаце Дэлавэр. Ён стане другім у гісторыі ЗША католікам на прэзідэнцкай пасадзе пасля Джона Кэнэдзі.

Віншаванні з перамогай на прэзідэнцкіх выбарах Джо Байдэну скіраваў таксама амерыканскі епіскапат. Яго старшыня, арцыбіскуп Хасэ Гомэс заклікаў усіх лідараў краіны з'яднацца ў духу нацыянальнага адзінства, прымаючы на сябе абавязак дыялогу і кампрамісу дзеля супольнага дабра.

> **„Джо Байдэн мае ірландскія карані, вучыўся ў каталіцкай школе, неаднаразова прызнаваўся ў сваёй веры, рэгулярна ўдзельнічае ў св. Імшы ў невялікім касцёле ў сваім родным горадзе Уілмінгтон"**

"Дэмакратыя патрабуе ад нас усіх, каб мы паступалі як людзі справядлівыя і самадысцыплінаваныя. Яна патрабуе ад нас паважаць свабоду выказвання меркавання і адносіцца адзін да аднаго з любоўю і ветлівасцю, нават калі мы ў корані не згаджаемся ў нашых дэбатах адносна закону і грамадскага парадку", — заўважыў амерыканскі іерарх.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Вызвалены з палону місіянер на аўдыенцыі ў Папы Францішка

**Папа Францішак прыняў на аўдыенцыі айца П'ерлуіджы Макалі, місіянера Таварыства афрыканскіх місій, вызваленага ў пачатку кастрычніка пасля двух гадоў няволі ў джыхадыстаў.**

"Гэта была цудоўная сустрэча. Я быў вельмі расчулены, асабліва калі расказаў Папе пра свой досвед і даверыў яго малітве, перш за ўсё, супольнасці, дзе я жыў, пазбаўленыя больш за два гады прысутнасці місіянера і святара", — падзяліўся законнік з Vatican News.

Святар быў выкрадзены ўзброенай групай у ноч на 17 верасня 2018 г. у місіі Бомоанга ў Нігеры, амаль на мяжы з Буркіна-Фасо. Яго вызвалілі 8 кастрычніка 2020 г. у Малі.

Айцец Макалі звярнуў увагу на складаную сітуацыю ў тых раёнах, дзе ён быў місіянерам: "Я папрасіў Папу памаліцца за іншых закладнікаў, за сітуацыю ў Нігеры і за іншыя складаныя сітуацыі ў краінах рэгіёну. Гэта час, калі нянавісць заяўляе пра сябе самым гучным голасам, але адказ – больш братэрства і свабоды. І гэта місія Касцёла", — распавёў місіянер, дадаўшы: "Папа сказаў, што мы павінны маліцца аб больш братэрскім свеце".



# Дыктатары паміраюць, а Касцёл трывае вечна

**3 лістапада ў Касцёле адзначаецца ўспамін бласлаўлёнага Руперта Маера — нямецкага езуіта, які мужна выступаў супраць нацызму і дыктатуры шалёнага фюрэра.**

*Паводле: brewiarz.pl Пераклад:* ***Мікола Гракаў***

Руперт нарадзіўся 23 студзеня 1876 года ў нямецкім Штутгарце ў заможнай сям'і камерсанта.

Пасля заканчэння ліцэя юнак сказаў бацьку, што хоча стаць езуітам, аднак той параіў сыну спачатку стаць святаром. Руперт паслухаўся бацькоўскай парады і напачатку як свецкі студэнт вывучаў філасофію і тэалогію ва ўніверсітэтах Фрайбурга, Мюнхена і Цюбінгена, а пасля паступіў у духоўную семінарыю ў Ратэнбургу. 2 мая 1899 года прыняў святарскае пасвячэнне, пасля чаго нёс служэнне вікарыя ў адной з парафій.

Езуітам ён стаў толькі праз год пасля святарскага пасвячэння, прычым у Аўстрыі, паколькі на яго радзіме ў Германіі дзейнасць Таварыства Езуса была пад забаронай.

У 1912 годзе айцец Руперт Маер пасяліўся ў Мюнхене і рэшту свайго жыцця прысвяціў служэнню жыхарам гэтага горада.

Ён быў душпастырам і апекуном усіх тых людзей, якія ў вялікай колькасці сцягваліся ў Мюнхен у пошуках працы і нярэдка станавіліся ахвярамі несумленнага выкарыстання. Разам з двума іншымі святарамі айцец Маер заснаваў Супольнасць сясцёр Святой Сям'і, якія клапаціліся пра самых бедных, а асабліва пра працуючых жанчын.

Святарскае служэнне Руперта Маера ў Мюнхене перарвала Першая сусветная вайна. З яе пачаткам ён стаў вайсковым капеланам і стараўся быць анёламахоўнікаў для жаўнераў, якія ваявалі на франтах у Францыі, Польшчы і Румыніі. Адважны святар, які падчас бітваў заставаўся на першай лініі разам з жаўнерамі, атрымаў найвышэйшую нямецкую вайсковую ўзнагароду — Жалезны крыж першай ступені.

У 1916 годзе, закрыўшы ўласным целам баявога таварыша, айцец Маер страціў левую нагу, якую адарвала выбухам гранаты.

Пасля вайны святар-герой вярнуўся ў Мюнхен, дзе нёс служэнне ў парафіі святога Міхала. Як і раней, ён асаблівым чынам клапаціўся пра найбяднейшых, якіх пасля вайны стала яшчэ больш. У гэты перыяд свайго служэння ён прамаўляў каля 70-і казанняў і настаўленняў у месяц. Айцец Маер увёў у жыццё наватарскую задуму цэлебрацыі нядзельных святых Імшаў на цэнтральным вакзале Мюнхена для зручнасці тых, хто ў дарозе. У 1919 годзе ён асабіста пазнаёміўся з Адольфам Гітлерам, акрэсліўшы яго як «выключнага прамоўцу і падбухторшчыка, які не надае асаблівай увагі праўдзе», і практычна адразу ўключыўся ў барацьбу з нацыянал-сацыялістычнай ідэалогіяй.

У 1923 годзе айцец Руперт Маер прыйшоў на сходку нацыстаў у славутай піўной зале Бюргербройкелер у Мюнхене, дзе яго з энтузіязмам віталі экзальтаваныя прыхільнікі Гітлера. Ужо тады айцец Маер быў шырока вядомым і шанаваным святаром, і яны лічылі, што ён таксама вырашыў далучыцца да «іх справы».

Аднак

> **„у першых словах сваёй прамовы святар сцвердзіў, што немагчыма быць адначасова католікам і нацыстам"**

Ён казаў гэта адкрыта, не баючыся рэпрэсій. Сваю нязгоду з намерамі Гітлера ён выказваў таксама на сходках нацыянал-сацыялістаў, імкнучыся змагацца са шкоднымі поглядамі ля іх вытокаў.

Такім чынам

> **„айцец Руперт Маер стаў галоўнай асобай каталіцкага антынацысцкага руху ў Мюнхене"**

Яго называлі «кульгавым апосталам», а вядомасць гэтага езуіта хутка зрабіла яго вельмі небяспечным ворагам нацыстаў. Пасля таго, як нацыянал-сацыялісты прыйшлі да ўлады, яны забаранілі айцу Руперту Маеру прамаўляць казанні. Аднак ён лічыў сябе абавязаным слухацца толькі сваіх духоўных уладаў, а тыя падтрымлівалі ягоную дзейнасць і не абмяжоўвалі свабоды. Таму забарону нацыстаў святар папросту ігнараваў.

Упершыню ён быў на кароткі час арыштаваны ў 1937 годзе, але пакаранне было адкладзена з-за вялікай папулярнасці айца Маера. Ён казаў пра сябе: «Стары аднаногі езуіт, калі на гэта ёсць Божая воля, перажыве бязбожную тысячагадовую дыктатуру». Па просьбе настаяцеляў ён перастаў прамаўляць казанні, але як толькі пачуў меркаванне гаўляйтэра (кіраўніка мясцовай улады пры нацысцкім рэжыме), які казаў, што святароў дастаткова пастрашыць вязніцай, каб яны перасталі весці сваю дзейнасць, зноў пачаў прамаўляць Божае слова.

5 студзеня 1938 года айцец Маер быў зноў арыштаваны і падчас аднаго з допытаў сказаў:

«Вы можаце мяне знішчыць, але праўда павінна быць сказана».

З вязніцы нязломны езуіт выйшаў да заканчэння шасцімесячнага тэрміну зняволення па амністыі.

У камеры ён дэманстратыўна пакінуў свой Жалезны крыж.

У трэці раз святара затрымалі ў 1939 годзе пасля таго, як ён адмовіўся даць інфармацыю пра сваю душпастырскую дзейнасць. Гэтым разам езуіта саслалі ў канцлагер у Араньенбургу каля Берліна, хоць тады яму было ўжо 63 гады. Там яго 7 месяцаў трымалі ў ізаляцыі ў адзіночнай камеры. Пазней айцец Маер сказаў: «Слёзы радасці выступілі ў мяне на вачах, калі я за свае пакліканне атрымаў гонар вязніцы і няпэўнай будучыні».

Аднак перш, чым забіць папулярнага святара, гітлераўцы імкнуліся знішчыць яго славу. Таму калі стан здароўя айца Маера з-за нялюдскіх умоваў у канцлагеры моцна пагоршыўся, яго выпусцілі і інтэрнавалі ў бэнэдыктынскім абацтве ў Эталі. Такім чынам нацыстам удалося пазбегнуць праслаўлення айца Маера як мучаніка.

Са свайго боку святар сам з болем усведамляў, што шмат яго суайчыннікаў, якія не маюць такой, як ён, вядомасці, паміраюць у канцлагерах, а ён нічога не можа зрабіць. У 1945 годзе амерыканскія войскі адбілі кляштар у нацыстаў, а айцец Руперт Маер, атрымаўшы свабоду, вярнуўся ў Мюнхен і зноў распачаў душпастырскую дзейнасць.

Ён стараўся пераконваць людзей, каб яны не асуджалі адно аднаго і жылі ў міры.

Аднак яму нядоўга было наканавана заклікаць да прабачэння. Падчас цэлебрацыі Эўхарыстыі ва ўрачыстасць Усіх Святых у 1945 годзе ён падчас казання страціў мову: раптам спыніўся на слове «Пан!», некалькі разоў яго паўтарыў і ўпаў. Праз некалькі гадзін айцец Маер памёр у шпіталі. Прычынай смерці стаў сардэчны прыступ.

Некаторыя выказванні езуіта-антыфашыста сталі афарызмамі: «Усё так хутка мінае, што мы не паспелі апамятацца, як ужо дасягнулі канца жыцця»; «Пане, калі Ты хочаш, у мяне на ўсё ёсць час, цяпер і ў вечнасці».

Айцец Руперт Маер быў беатыфікаваны Папам Янам Паўлам ІІ 3 мая 1987 года. Беатыфікацыя адбылася на запоўненым людзьмі алімпійскім стадыёне ў Мюнхене. Тады святы Ян Павел ІІ сказаў: «Там, дзе не лічацца з Богам і Яго законамі, парушаюцца таксама правы чалавека».

*Catholic.by*



Благаслаўлёны Руперт Маер. Выява: mk-online.de





Здымкі з вязніцы. Выява: jesuit.ie



Айцец Руперт Маер на фронце. Выява: Youtube



«Кульгавы езуіт» айцец Руперт Маер падчас працэсіі Божага Цела ў 1938 г. Выява: mk-online.de

# Гісторыя стварэння інстытута Упаўнаважаных

**Да 40-х гадоў ХХ ст. рэалізацыя канфесійнай палітыкі ў БССР ажыццяўлялася ў адпаведнасці з агульнымі дэкрэтамі першых дзесяцігоддзяў савецкай улады, напрыклад, з "Дэкрэтам аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы". Аднак з цягам часу ўзнікла патрэба ў стварэнні асобнага органа, які б кантраляваў дзейнасць усіх царкоўных арганізацый.**

**Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук (Мінск)*

14 верасня 1943 г. у СССР быў створаны Савет па Справах Рускай праваслаўнай царквы. 19 мая 1944 года быў створаны Савет па справах рэлігійных культаў (далей – Савет па СРК). Ён павінен быў займацца ўсімі неправаслаўнымі рэлігійнымі арганізацыямі: каталіцкім касцёлам, пратэстанцкімі цэрквамі і дэнамінацыямі, мусульманамі, іудзеямі і стараверамі.

Арганізацыя Савета па СРК была іерархічнай. На чале Савета пры СНК/СМ СССР знаходзіўся Старшыня (у Маскве), на месцах – Упаўнаважаныя (па рэспубліках і абласцях). У кожнай з абласцей БССР павінны былі працаваць упаўнаважаныя двух Саветаў: па справах Рускай праваслаўнай царквы і па справах рэлігійных культаў. У пасляваенны час усе рэлігійныя абшчыны (як на тэрыторыі Заходняй Беларусі, так і малакалькасныя на тэрыторыі Усходняй) павінны былі быць упісаныя ў савецкія рэаліі і арганізаваны ў адпаведнасці з заканадаўствам у канфесійнай сферы. Менавіта гэтыя пытанні павінны былі вырашыць Савет па справах рэлігійных культаў і яго Упаўнаважаныя на месцах.

Да абавязкаў Савета па СРК і яго ўпаўнаважаных належала рэгуляванне адносін дзяржавы з неправаслаўнымі цэрквамі і арганізацыямі, распрацоўка праектаў заканадаўчых актаў і пастаноў па канфесійных пытаннях, назіранне за правільнай і своечасовай рэалізацыяй свецкага заканадаўства ў канфесійнай сферы, своечасовае інфармаванне вышэйшых органаў улады аб стане рэлігійных арганізацый, іх улік, складане інфармацыйных справаздач і г.д.

Кандыдатура на пасаду рэспубліканскага ўпаўнаважанага была падабрана досыць хутка, першым на яе быў прызначаны Пётр Маслаў. Нашмат больш пытанняў і праблем узнікала з фарміраваннем і дзейнасцю апарата абласных упаўнаважаных і падборы кандыдатур на гэтыя пасады. У адпаведнасці з зацверджанымі штатамі пры аблвыканкаме кожнай вобласці БССР ствараўся апарат Упаўнаважанага па СРК, які складаўся з двух чалавек: непасрэдна Упаўнаважанага і сакратара-машыністкі. Супрацоўнікі апарата ўпаўнаважанага давалі падпіску аб неразгалошанні звестак, атрыманых на працы.

Пры падборы кандыдатур на пасады ўпаўнаважаных па абласцях на пачатковым этапе ўзнікаў шэраг цяжкасцяў. Перадусім не хапала хаця б нейкім чынам падрыхтаваных кадраў. Нягледзячы на неаднаразовыя прадпісанні, работу ў дадзеным кірунку ў абкамах і аблвыканкамах байкатавалі. У некаторых падбор адпаведным чынам падрыхтаваных кандыдатур не праводзіўся. У тых выпадках, калі работа ўсё ж вялася, яна часта не прыносіла вынікаў. Гэта адбывалася з розных прычын. Чыноўніцтва БССР у большасці сваёй не разумела і не ўспрымала неабходнасці дзейнасці Упаўнаважаных у савецкіх рэаліях. К. Уласевіч адзначаў: «Работу Уполномоченного Совета на местах в большинстве областей местные руководящие партийные и советские работники больше чем недооценивают». Падобным чынам на пачатку арганізацыі інстытута ўпаўнаважаных выказваліся і кіраўнікі абкамаў кампартыі, як, напрыклад, Бабруйскага – тав. Баранаў. Ён казаў: «Зачем Вас (упаўнаважаных – Р.З.) там держать, ведь попы как молились, так и будут молиться без вашего вмешательства, лучше бы Вы поехали в район области и провели посевную кампанию – это гораздо более полезно для государства».

Такое стаўленне ўплывала на тое, што некаторым упаўнаважаным не выдзялялі кабінетаў у будынках аблвыканкамаў. Так было з упаўнаважаным у Полацкай вобласці, якога ў 1945 г. выслалі ў Глыбокае, дзе ён і павінен быў працаваць. У Палескай вобласці з-за недахопу кадраў упаўнаважаны па справах рэлігійных культаў сваю працу выконваў па сумяшчальніцтве. Асноўным было кіраванне Палескім аддзелам паліўнай прамысловасці. Галоўная работа ўпаўнаважаных на пачатковым этапе заключалася ў рэгістрацыі рэлігійных аб'яднанняў і кантролі за іх дзейнасцю. У 1947 г. ва ўсходніх абласцях БССР гэтую пасаду скарацілі.

У 1965 г. пастановай Савета Міністраў СССР ад 8 снежня два Саветы (па справах Рускай праваслаўнай царквы і па справах рэлігійных культаў) аб'ядноўваліся ў адзін – Савет па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР, з захаваннем ранейшай структуры па рэспубліках і абласцях і асноўных кірункаў дзейнасці. У такім выглядзе ён праіснаваў да моманту распаду СССР.



Кс. Юзаф Марсангер SJ, пробашч парафіі ў Солах у савецкі час.

> **"Адной з важных задач упаўнаважаных было і выяўленне "настрояў духавенства"**

Змест працы Упаўнаважаных вызначаўся спецыяльнай Інструкцыяй. Акрамя гэтага, як пісьмова, так і вусна на рэспубліканскіх і агульнасаюзных з'ездах упаўнаважаных ім даваліся распараджэнні і тлумачэнні, на што ў іх працы варта звяртаць увагу. Напрыклад, што датычылася каталіцкага касцёла: "Вам, работающим в западных областях БССР, где еще имеет большое влияние среди верующего населения римско-католическая церковь и ее служители – ксендзы, необходимо особое внимание уделять в своей работе деятельности католической церкви. На совещании в феврале месяце вы были ознакомлены с письмом Совета от 20 января за №53с, где говорилось о таких церковных организациях, как «терциарий», «ружанец» и вообще об активе верующих-католиков. Изучением деятельности таких организаций и групп следует вам по серьезному заняться, вести за ними наблюдение" (1947 г.). Асноўныя кірункі працы на год даводзіліся да рэспубліканскіх і абласных упаўнаважаных з Масквы. На месцах яны адаптаваліся пад лакальныя варункі. Напрыклад, сярод асноўных задач і планаў работы Савета па СРК і яго ўпаўнаважаных на 1959 год значыліся: "1) ограничение и прекращение паломничеств верующих к т.наз. «святым местам» (…); 5) Ограничение влияние Ватикана на деятельность католической церкви в СССР".

Агулам да асноўных задач упаўнаважаных можна аднесці: уліковую, кантрольную, справаздачную. Першачарговай задачай, якая ставілася перад упаўнаважанымі, было выяўленне, улік і рэгістрацыя наяўных у абласцях і ўвогуле ў рэспубліцы абшчын. Таму першымі мерапрыемствамі, на якія накіроўвалася праца Упаўнаважаных па вабласцях, сталі акурат уліково-рэгістрацыйныя. Далей адбываўся кантроль дзейнасці духавенства, вернікаў і рэлігійных абшчын з абавязковай праверкай адпаведнасці савецкаму заканадаўству ў канфесійнай сферы.

Адной з важных задач упаўнаважаных было і выяўленне "настрояў духавенства". Само гэтае паняцце ў большай ступені ўключала не столькі адлюстраванне сапраўдных поглядаў і выказванняў святароў па тым ці іншым пытанні, колькі іх інтэрпрэтацыю ўласна ўпаўнаважанымі. Так, напрыклад, у 1967 г. упаўнаважаны па Мінскай вобласці Лагвіненка пісаў пра пробашча Касцяневіцкага касцёла ксяндза В. Жука: "По своим убеждениям Жук является большим националистом, активный сторонник Ватикана. В осторожной форме заискивает с молодежью с целью оказания на некоторую ее часть своего влияния. После Ватиканского собора он активно занялся совершением обряда конфирмации. На это же ориентировал и ксендзов соседних приходов. Очень хитрый и осторожный в поведении человек".

Асобна ўпаўнаважаныя павінны былі выяўляць, даследаваць і адлюстроўваць у справаздачах "палітычныя настроі" духавенства, у тым ліку стаўленне да выбараў. Напрыклад, у 1947 г. было загадана: "Уполномоченным по всем областям. 9 февраля – день выборов в Верховный Совет Белорусской ССР. Поинтересуйтесь участием в выборах групп верующих и особенно руководителей общин и католического духовенства. После выборов будет проведено совещание уполномоченных западных областей, к которому вы должны будете подготовить доклады о состоянии и деятельности РКЦ".

> **"Пасля ўводу войск у Чэхаславакію ўпаўнаважаным прадпісвалася звярнуць увагу на выказванні духавенства па дадзенай тэме"**

У абавязкі ўпаўнаважаных уваходзіў і збор і аналіз інфармацыі аб настроях духавенства ў сувязі са знешнепалітычнымі падзеямі. У 1949 г. у сувязі з працэсам над кардыналам Міндсэнці ў Венгрыі, які быў асуджаны да пажыццёвага зняволення, неабходна было высветліць, што вядома беларускім святарам пра гэта і іх адносіны да названага факту. Аб адной з такіх размоў гаворыцца ў справаздачы намесніка ўпаўнаважанага Луганскага з кс. С. Рыжко: "Последний (…) сказал, что он знает об этом процессе и приговоре только с одной стороны, т.е. по данным советской печати (получает и читает газету «Известия»), поэтому не может сделать вывод о виновности Миндсенти по отношению к существующему политическому строю в Венгрии, а отсюда и о справедливости вынесенного ему приговора. Этим Рыжко показал, что советской прессе он не доверяет и помещаемые в ней сведения за истину не принимает".

⇒

# Савета па справах рэлігій у БССР

⇒ Пасля ўводу войск у Чэхаславакію ўпаўнаважаным прадпісвалася звярнуць увагу на выказванні духавенства па дадзенай тэме. Былі атрыманыя наступныя звесткі: "Ксендзы Лазарь из Бреста, Марсангер из д. Солы считают, что мы не должны были вмешиваться в дела Чехословакии. «Пусть чехи и словаки, – говорят они, – строят социализм, какой им хочется» и т.д. (...) Из этого мы делаем выводы и принимаем меры по улучшению работы с духовенством".

Упаўнаважаныя назіралі і за шараговай дзейнасцю духавенства і адлюстроўвалі гэта ў сваіх рэгулярных справаздачах. Упаўнаважаны Лагвіненка ў справаздачы за 1967 г. пісаў: "Было установлено, что за последнее время ксендзы Кучинский и Шубзда значительно активизировали свою деятельность в направлении приобщения детей, подростков к религии. Если до 1966 г. они в порядке совершения религиозных обрядов по просьбам верующих ограничивались крещением, венчанием и похоронами, то в прошедшем году они оба приступили к совершению такого вида таинства, как «конфирмация» (бежмование, миропомазание), которое даже по каноническому праву не является необходимым средством к спасению. Например, кс. Кучинский, сообщил, что он летом 1966 г. во время религиозного праздника «троица» привлек к конфирмации 200 человек верующих, из них до 20 человек были дети в возрасте 14-15 лет". Выяўленне такіх фактаў уплывала на спробы абмежаваць дзейнасць духавенства, нават тую, якая ўпісвалася ў дазволеную савецкім заканадаўствам і не парушала яго (удзел у набажэнствах паўналетніх людзей). Тут асаблівая ўвага звярталася на сакрамант канфірмацыі, які святары пачалі масава ўдзяляць асабліва пасля II Ватыканскага сабора. Упаўнаважаны Лагвіненка адзначаў: "Конфирмации подвергались в основном совешеннолетние лица женского и мужского пола. При этом ксендзы ссылались на решение Ватиканского собора, который якобы предоставил ксендзам право совершать обряд конфирмации. В результате проведенной разъяснительной работы (...) в текущем году случаев конфирмации не наблюдалось" (1967 г.).

Адной з форм працы упаўнаважаных з'яўлялася таксама праслухоўванне пропаведзяў, што пасля адлюстроўвалася ў справаздачах: "Большое внимание уделяют ксендзы проповедям, которые они произносят непременно во все воскресенья и во все религиозные праздники. Всего в течение года ксендз произносит около 65 проповедей. Проповеди произносятся на польском языке, что затрудняет их прослушивание и изучение. Пространные проповеди любят произносить ксендз Пинского костела Свентэк и ксендз Брестского костела Лазарь".

> **"Адной з форм працы упаўнаважаных з'яўлялася таксама праслухоўванне пропаведзяў, што пасля адлюстроўвалася ў справаздачах"**

У казанні ксяндза Ю. Марсангера (в. Краснае) упаўнаважаны ўгледзеў падбухторванне да масавых мерапрыемстваў: "Последний во время богослужения, на котором присутствовали и католики из г.Минска, в своей проповеди, произнесенной в начале июня сего года, призывал католиков г.Минска не прекращать своей деятельности, связанной с открытием костела в г. Минске, подавать ходатайства по этому вопросу в правительственные органы, рекомендовал им организовать массовые шествия католиков и проводить другие мероприятия. Не случайно 25 июня сего года католики гор. Минска в количестве 70 человек явились на прием в Совет Министров БССР по вопросу открытия костела в городе".

Найбольш аб'ектыўнымі дадзенымі ў дакументацыі ўпаўнаважаных з'яўляліся статыстычныя звесткі. Аднак і яны не ў поўнай меры адлюстроўвалі сапраўдны стан рэчаў, паколькі засноўваліся на дадзеных, якія давала духавенства, і на назіраннях. Напрыклад, у статыстычных звестках па асноўнай рэлігійнай абраднасці за 1969 г. адзначалася, што ў Гродзенскай вобласці ў праваслаўнай царкве ахрысцілі 3683 чалавек, удзелена шлюбаў – 79. У каталіцкім касцёле – хростаў 4969, шлюбаў 1319. Акрамя гэтых канфесій, у Гродзенскай вобласці дзейнічалі стараабрадцы беспапоўцы, якія, па звестках упаўнаважаных, ахрысцілі двух чалавек, евангельскія хрысціяне-баптысты, каторыя ахрысцілі сем чалавек. Мусульмане правялі дзесяць абрадаў нарачэння імем і ўдзялілі два шлюбы. У тым жа годзе ў Гродзенскай вобласці працаваў у праваслаўнай царкве 71 святар, былі 2 дыяканы, 38 псаломшчыкаў. У каталіцкім касцёле налічвалася 38 ксяндзоў, 1 прэсвітар АСД. Царква ЕХБ мела 23 пастараў, 31 прапаведніка, 18 дыяканаў".



Кардынал Казімір Свёнтэк, былы пробашч Пінскага касцёла, якога праслухоўвалі камуністычныя ўлады.

Аналізуючы статыстычныя дадзеныя, упаўнаважаныя адзначалі: "Но одной из главных причин роста религиозной обрядности и церковных доходов является активная деятельность духовенства, особенно католического, которое все еще оказывает значительное влияние на все слои населения. Так, например, в 40 костелах Гродненской обл. за 1968 год окрещено 5 000 детей, а в 77 церквах – 4 тысячи, обвенчалось в костелах 1 263 пары, а в церквах 122 пары. Такое же положение и в Минской области, где за истекший год в 13 костелах обвенчалось 230 пар, а в 49 церквах – 34 пары. Это объясняется не только религиозным фанатизмом католиков, но и активной деятельностью ксендзов, которые для усиления своего влияния используют все возможности, в т.ч. и такую, как посещение больных на дому.

В дер. Раков Воложинского района имеется один поп и один ксендз. Первый не посетил за год ни одного больного, а второй – 90 человек и т.д. В чем причина такой высокой активности духовенства католической церкви в сравнении с духовенством православной церкви?"

Савет па справах рэлігійных культаў і яго ўпаўнаважаныя з'яўляліся органам, у сферу кампетэнцыі якога ўваходзіў кантроль дзейнасці рэлігійных абшчын неправаслаўных канфесій, у тым ліку каталіцкай. У 1965 г. гэты інстытут быў аб'яднаны з Упаўнаважаным Савета па справах РПЦ, і ад таго часу адзіны Савет па справах рэлігій займаўся ўсімі рэлігіямі і канфесіямі, якія дзейнічалі як на тэрыторыі СССР, так і ў Беларусі. Праіснавала гэтая структура да 1991 г.

*Пры падрыхтоўцы публікацыі выкарыстаны матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Лучшая защита – это нападение: что нужно знать про общение в Интернете

**Сейчас никого не удивляет огромное количество людей с мобильными телефонами в руках, которые постоянно разговаривают, пишут что-то или делают фото для популярных социальных сетей. Нахождение в Интернет пространстве стало привычным. И это лишь доказывает, что Интернет стал неотъемлемой и важной частью нашей жизни.**

**Марина Ткач**, *психолог*



Сегодня, когда пандемия вынуждает большое количество людей оставаться дома, но при этом продолжать быть включенным в рабочий и учебный процессы, продолжать общаться с родными и друзьями, жизнь в онлайн режиме становится особенно актуальной.

В частности, разговор пойдет про общение. Казалось бы, все здесь понятно, каждый из нас умеет общаться и зачастую не испытывает каких-либо трудностей в этом. Наша жизнь в интернет пространстве – это всевозможные социальные сети, комментарии на различных сайтах и форумах, видео звонки и переписка в чатах популярных мессенджеров. И вся это виртуальная активность общения, будь она продиктована работой, учебой или личными моментами, подразумевает как навыки общения, так и умения противостоять волне негатива, критике и агрессии.

Онлайн-общение не лишено положительных моментов: вы можете получить необходимую поддержку от родных и близких, порадоваться за успехи или разделить моменты неудачи друзей, поздравить с праздниками, да и просто быть на связи в деловом и личном плане. В ситуации сложной эпидемиологической обстановки такой формат общения будет еще и безопасным для вас и ваших коллег, друзей и близких.

Но есть и обратная, негативная сторона онлайн общения. Дело в том, что мы воспринимаем информацию не только вербально (с помощью слов), до 80% нашего восприятия — это мимика, жесты, интонация нашего собеседника, его улыбка, тембр голоса, паузы. А еще все наши диалоги проходят неотрывно от контекста. Есть узкий контекст (о чем беседуем в конкретный момент) и широкий контекст (о чем думали вчера, что происходило с каждым из нас только что, полчаса назад, этим утром, накануне и т.д.). При живом общении эти контексты совпадают: мы находимся в одном и том же месте, слышим тот же запах, ощущаем общую атмосферу. Общение же в интернете безликое и напоминает аквариум из которого убрали рыбок и воду, оставив лишь декоративные элементы. При этом вроде бы это до сих пор аквариум, но все же что-то не так. А именно здесь нет атмосферы и тех самых общих контекстов. В результате ваши слова будут не так поняты, приобретут иной смысл, энергетика вашей речи будет частично потеряна. Ко всему прочему в онлайн общении лучше ощущается чрезмерная эмоциональность и тревожность, которую многие испытывают, особенно сейчас, находясь в ситуации неопределенности и неподконтрольности ситуаций, происходящих вокруг. Поэтому весь тот негативный и достаточно динамичный эмоциональный фон находит свое отражение в рамках интернет общения. Из этого зачастую и возникает неприязнь, эмоциональное давление, попытки показать вам как сильно вы заблуждаетесь, как итог все это может перерасти в агрессию в ситуации общения и даже травлю.

**Что же нужно знать для того, чтобы общение в рабочих, учебных, родительских или иных интернет чатах (сообществах) приносило пользу и поддержку?**

**Сохраняйте спокойствие.** И это первое, что вы должны сделать, если понимаете, что ваше общение потеряло конструктивность. Психовать совершенно ни к чему. Даже если вы чувствуете надвигающийся на вас эмоциональный напор или сами испытываете чувство раздражения, злости, сделайте глубокий вдох. Можно при этом поменять позу, встать, пройтись по комнате, все это поможет снять напряжение и при этом не наговорить или написать лишнего.

**Общение – это не сражение.** Важно помнить, что диалог ведется не с целью чтобы кого-то победить, раздавить или уничтожить, а для того чтобы получить информацию, высказать свои мысли, узнать мнения других людей или может сплотиться для решения каких-либо задач. Победа любой ценой – это не про общение, где бы оно ни было.



**У каждого есть право на ошибку.** Не стоит сразу же эмоционально реагировать на ответ, который вы получили и который вы, вполне объективно, можете оценить, как ошибку или заблуждение. Не забывайте, что ошибаться может каждый — и вы, и ваш собеседник в том числе. В данном случае стоит без лишних эмоций, критики и оценок, указать на ошибку, позволяя, тем самым, себе и ему учиться на этих ошибках. А порой и вовсе целесообразнее не акцентировать свое внимание на ошибочных суждениях (конечно, если это не касается рабочих моментов или не несет вреда непосредственно вам). Куда полезнее ориентироваться и оценивать самого себя и свое поведение, а не других людей.

**Вы не обязаны всем нравиться.** Если вы получаете критику в свой адрес во время общения в интернете, важно помнить и понимать, что другие люди имеют право нам не верить, нас не любить, не понимать или не соглашаться с нами – это придется принять. Все мы разные. Нет хорошего или плохого, есть просто другое мнение, другой взгляд на вещи и жизнь. Согласитесь, было бы странно реагировать на это злобой или агрессией.

**Не отвечайте на раздражительность взаимностью.** В конфликте нет ничего проще, чем огрызнуться в ответ. Старайтесь держать себя в руках и реагируйте на слова и сообщения собеседника спокойно, применяя действия из первого пункта.

**Не опускайтесь до уровня тех, кто пытается спровоцировать вас «на понижение».** Не стоит воспринимать оскорбления близко к сердцу, ведь все чего добивается таким образом ваш собеседник или собеседники - это спровоцировать вас на ответную агрессивную или злобную реакцию. Не получив ожидаемого, вы перестанете быть для участника чата энергетическим источником, а значит конфликт в общении сойдет на нет. Попробуйте построить диалог опираясь на свою «зрелость» и «зрелость» собеседника, как бы взывая к более высокому уровню - без обидных слов, провокаций, обвинений и стереотипных реакций. Такой «взрослый» тон при переписке обескуражит скандалиста и заставит прислушиваться к вам.

**Не спешите оценивать.** Судить о людях по переписке — то же самое, что описывать объект по силуэту. В такой ситуации у нас крайне мало достоверной информации, чтобы понимать, какие люди находятся вместе с нами в чате. И проблема состоит в том, что, опираясь на эти самые некачественные и искаженные сведенья, нам кажется, что мы разобрались кто есть, кто в чате: этот хам, а вот тот грубиян, а еще кто-то злой и агрессивный. А ведь все может быть совсем не так. Ведь эмоции, направленные в ваш адрес, могут быть всего лишь показателем того, что ваш собеседник, возможно, переживает непростые времена и именно это становится причиной злости или агрессии.

**Все, что вы читаете в интернете, нужно заведомо «делить пополам».** Большая часть того, что мы прочитали в момент интернет общения и потом подумали, скорее всего, является отражением нашего жизненного, субъективного опыта, нашего настроения, наших тревог и страхов в данный момент. Да, именно наших, а не тех, кто это писал. Помните, детскую игру «Испорченный телефон»? Нам быстро говорили слово, мы его как-то по-своему понимали, что-то додумывали сами (это к вопросу об отражении нашего жизненного, субъективного опыта) и этот результат передавали дальше. Так и в оценке собеседника (особенно мало знакомого), мы наделяем его какими-то «своими» характеристиками и особенностями.

**Культура общения.** Многие считают, что в интернете многие правила и нормы поведения можно и не соблюдать, но это не так. Безусловно, культура общения в интернете только начинает формироваться, но от нас также зависит на сколько быстро будет идти этот процесс. Оставайтесь всегда культурными и воспитанными людьми. Используйте в общении и интернет переписке вежливые слова и фразы. По ту сторону экрана ноутбука, телефона или планшета находится такой же человек как и вы. И хотя бы этот факт уже достоин уважения.

Подчеркивая важность и необходимость онлайн общения, не стоит забывать одну простую вещь: интернет общение способно сблизить нас с теми, кто далеко, но может отдалить от тех, кто рядом. Не забывайте о тех, кто в данный момент непосредственно находится рядом с вами. Реальная жизнь куда более интереснее чем Интернет.

## Уладальнікам спадчыны брата Бэнэдыкта XVI будзе Святы Пасад

**Бэнэдыкт XVI адмовіўся ад прыняцця спадчыны па сваім браце, які памёр у ліпені 2020 г. У гэтай сітуацыі ўладальнікам усёй маёмасці кс. Георга Ратцынгера з'яўляецца Святы Пасад.**

Гэта патлумачыў выданню Bild am Sonntag Ёханэс Хофман, дэкан Фонда св. Яна. Так вырашыў сам святар у пастскрыптум да свайго завяшчання.

Дом у Рэгенсбургу, дзе жыў кс. Ратцынгер, належыць Фонду. Спадчына ўключае ў асноўным кампазіцыі, ноты катэдральнага хору хлопчыкаў Regensburger Domspatzen, невялікую бібліятэку і сямейныя фотаздымкі.

Кс. Георг Ратцынгер памёр 1 ліпеня ў Рэгенсбургу ва ўзросце 96 гадоў. У сярэдзіне чэрвеня Бэнэдыкт XVI паехаў у Германію да свайго старэйшага брата, здароўе якога хутка пагаршалася. Георг быў апошнім блізкім сваяком Папы-эмерыта. У 1964-1994 гадах ён кіраваў хорам хлопчыкаў Regensburger Domstapzen. Пахаваны на каталіцкіх могілках у Рэгенсбургу.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# У Мінску маліліся за забітага Рамана Бандарэнку, які стаў чарговай ахвярай тэрору

**У пятніцу 13 лістапада ў мінскі катэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі адбылася святая Імша аб вечным жыцці для Рамана Бандарэнкі — чарговай ахвяры тэрору.**

**Мікола Гракаў,** *Catholic.by*

Цэлебрацыю ў галоўнай святыні сталіцы ўзначаліў Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі. На партале Catholic.by вялася прамая трансляцыя святой Імшы за забітага Рамана Бандарэнку, якую глядзелі некалькі тысяч чалавек з розных краін.

Як адзначыў на пачатку цэлебрацыі біскуп Касабуцкі, гэтая малітва — выраз салідарнасці, каб быць разам з усімі людзьмі, якія перажываюць сумныя часы; каб памаліцца за памерлага Рамана Бандарэнку, які стаў чарговай ахвярай тэрору, насілля ў нашай краіне.

Іерарх нагадаў, што ў лістападзе Касцёл на працягу ўсяго месяца моліцца за памерлых, дадаўшы, што ў гэты дзень не толькі ў мінскай катэдры, але і ў іншых каталіцкіх і праваслаўных святынях узносяцца малітвы за забітага Рамана Бандарэнку.

«Мы просім, каб міласэрны Бог адарыў яго ласкаю збаўлення, бо мы для яго душы можам зрабіць толькі адно — маліцца, бо гэта патрэбна для яго збаўлення», — падкрэсліў біскуп.

У прамоўленым Божым слове іерарх звярнуў увагу на тое, што, па словах Хрыста, канец свету прыйдзе нечакана, і што гэта датычыцца таксама кожнага чалавека, бо ніхто загадзя не ведае моманту свайго адыходу.

> **„Калі Раман сказаў сваю апошнюю фразу, якая ўжо разляцелася па ўсіх сацыяльных сетках „Я выходжу“, ён не мог ведаць, што гэты выхад і будзе тым момантам, калі душа пакіне цела; момантам, калі ён стане перад Госпадам“**

— зазначыў біскуп Юрый, дадаўшы, што гэта павінна заахвоціць усіх нас задумацца над сваім жыццём і ўсвядоміць, што для кожнага нечакана прыйдзе момант адыходу з гэтага свету. Для таго, каб быць гатовым да гэтага моманту, па словах іерарха, патрэбная вера і любоў да Бога, а таксама жыццё паводле Яго запаведзяў, якія вучаць карыстацца свабодай, а не абмяжоўваюць чалавека.

«Божы закон, Божыя запаведзі — гэта той маральны падмурак, які дапамагае ў кожнай сітуацыі заставацца чалавекам, добрым чалавекам», — сцвердзіў пастыр, дадаўшы, што ніхто нічога не забярэ з сабою на той свет: за ім пойдуць толькі яго ўчынкі — добрыя або дрэнныя, і з імі давядзецца стаць перад Божым судом.

> **„Быць чалавекам, асабліва сёння, — гэта нялёгкая, складаная справа. З жахам мы і ўвесь свет назіраем за тым, што адбываецца ў нашай краіне“**

Мы вельмі шмат кожны дзень молімся аб спыненні насілля, але бачым, што яно ўсё больш павялічваецца, з'яўляюцца новыя ахвяры. Мы ўсе скалынуліся, калі даведаліся, як збілі Рамана, а калі даведаліся, што ён памёр, колькі было жалю, болю... Ніводзін адэкватны чалавек не застаўся абыякавым», — сказаў біскуп Юрый Касабуцкі.

Адзначыўшы, што ўсе ведаюць, што насілле і забойства — гэта зло, ён нагадаў, што разам з тым Хрыстус заахвочвае да прабачэння. Хоць, паводле біскупа, людзям усё цяжэй гэта рабіць, аднак малітва за ворагаў на ўзор Хрыста ўмацоўвае нас, вызваляе ад жадання помсты,



дапамагае ў кожнай сітуацыі заставацца чалавекам.

Аналізуючы сітуацыю, якую перажывае цяпер беларускі народ, іерарх заўважыў, што не ўсё можна зразумець адразу; адказаць на пытанне, чаму так адбываецца. Аднак, па яго словах, гэтая сітуацыя салідарызавала грамадства і паказала, хто ёсць хто.

> **„Мы ўбачылі, у каго ў сэрцы ёсць сапраўдная любоў, якая не шукае сваёй выгоды, якая жадае дабра для ўсёй краіны, для ўсіх жыхароў, для ўсіх нас“**

— падкрэсліў біскуп Касабуцкі.

Сённяшнюю сітуацыю ў краіне і праявы незвычайнай салідарнасці паміж людзьмі іерарх параўнаў з тым, як падчас вайны многія праяўлялі гераізм і ратавалі іншых ад карнікаў, рызыкуючы сваім уласным жыццём.

> **„Сёння наша грамадства напоўнена гэтым гераізмам, і нам трэба маліцца вельмі шмат, каб мы гэта захавалі“**

— сцвердзіў пастыр, дадаўшы, што нягледзячы на спробы нас падзяліць і навязаць нам нянавісць, людзі праяўляюць адно да аднаго сапраўдную любоў і адзінства. Біскуп Юрый пажадаў, каб такое братэрства насуперак усім падзелам і адрозненнямназаўсёды аб'яднала ўсіх сыноў і дачок беларускага народа. Гэта стане найлепшым ушанаваннем памяці Рамана і іншых ахвяраў, якія загінулі за свае погляды, за шчасце ўсяго народа, за лепшую будучыню для ўсіх нас.



**Так выглядаў глыбоцкі касцёл да перабудовы.** *Фота пачатку XX ст.*

# Устаноўлена дата асвячэння глыбоцкага касцёла пасля перабудовы

**Доўгі час краязнаўцам не была вядомая дата асвячэння касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім пасля перабудовы, якая адбывалася ў 1902-1908 гадах.**

**Кастусь Шыталь**

Іўсё ж некалькі дзён таму яе ўдалося знайсці – а разам з ёй і імёны людзей, якія спрычыніліся да рэканструкцыі святыні.

Цікавая для гісторыі Глыбокага нататка знайшлася ў газеце "Kurjer Warszawski", №9 за 9 студзеня 1909 года.

## Касцёлы на Літве[1]

У 1638 годзе са шчодрай і дабрачыннай фундацыі Іосіфа Корсака, мсціслаўскага ваяводы, у Дзісенскім павеце, у мястэчку Глыбокім, паўсталі два касцёлы: адзін вялікіх памераў айцоў кармелітаў босых з кляштарам і фундацыяй, прызначанай на навучанне і ўтрыманне вучнёўскай моладзі, другі меншы парафіяльны касцёл, і за паўмілі за Глыбокім у мястэчку Беразвечча цудоўны касцёл з кляштарам айцоў базыльянаў або чэрнцаў з 6-класнай гімназіяй.

Касцёл кармелітаў 45 гадоў таму быў зачынены, а цяпер ва ўласнасці праваслаўнага духавенства[2]. Застаўся ў Глыбокім адзін малы каталіцкі касцёл, у якім з 6.000 парафіян толькі трэцяя частка магла змясціцца. Здаўна парафіяне мелі намер аднавіць і пашырыць касцёл з прыватных складак, але збяднелая Літва не магла на гэта здабыцца. Доўгія гады народ, які маліўся, цярпеў холад і слоту падчас урачыстасцяў.

Нарэшце некалькі гадоў таму пробашчам у Глыбокім стаў ксёндз Жэро. Сабраў ахвяры і з дапамогай народу заклаў падмуркі для пашырэння сценаў святыні. Але хвалебныя высілкі кс. Жэро працягваліся нядоўга, бо праз кароткі час з распараджэння свецкай улады быў вымушаны выехаць у Гродна. Аднак, калі новы пробашч кс. Буйвіс[3] прыняў парафію, праца пайшла хутка. Значныя ахвяры былі атрыманыя: ад святой памяці Зоф'і Аскерка 3.000 рублёў[4], і ад панны Б. Чарнеўскай 4.500 рублёў[5]. Меншыя ахвяры павялічылі капітал, які дапамог скончыць высакародную справу. Таксама належыць ацаніць саўдзел у адбудове касцёла і зборы ахвяраў старшыні касцельнага камітэта п. Ст. Моля[6], які высакародна выканаў сваё заданне.

І вось, 27 снежня [1908 года] з'ехалася ў Глыбокае з Вільні і з павета 18 ксяндзоў, на чале з кс. пралатам Курчэўскім[7], які з даручэння адміністратара Віленскай дыяцэзіі кс. Міхалькевіча, здзейсніў асвячэнне касцёла, які быў перапоўнены вернікамі парафіі. У касцёле з прыгожай і па-мастацку зробленай казальніцы, якая дасталася ад айцоў чэрнцаў, прамаўлялі кс. пралат Курчэўскі і кс. Абаровіч. Пасля асвячэння касцёла кс. Буйвіс на плябаніі прыняў шматлікіх сабраных гасцей.

[1] Землі былога Вялікага Княства Літоўскага яшчэ ў пачатку XX стагоддзя часта называлі Літвой.
[2] Цяпер гэта кафедральны сабор Нараджэння Багародзіцы.
[3] Ксёндз Даніэль Буйвіс, пробашч у Глыбокім з 1904 года, літовец па нацыянальнасці.
[4] Зоф'я Аскерка з дому Корсакаў – жонка ўладальніка маёнтка Азерцы Зыгмунта Аскеркі. Памёрла 22 снежня 1902 года ва ўзросце 52 год, пахаваная на Копцеўцы.
[5] У нататцы пазначана першая літара імя "Б" – але магчыма, гэта памылка, а гаворка ідзе пра Рудольфу Чарнеўскую з маёнтка Каштальянаўшчына. На магіле Р. Чарняўскай, памерлай 11 красавіка 1913 года, працытаваныя словы 40 псальма: «Шчаслівы, хто дбае пра ўбогага – у дзень бедства збавіць яго Пан».
[6] Граф Станіслаў Моль быў уладальнікам маёнтка Залессе і апекуном земляробскай школы ў Варанцах каля Паставаў.
[7] Ксёндз Ян Курчэўскі (1854-1916) – канонік віленскай катэдры, гісторык Касцёла, старшыня Таварыства Прыяцеляў Навук у Вільні.

# Хору “Гасанна” – 20 гадоў!

**Восенню 2000 года ў катэдральным касцёле Святой Барбары ў Віцебску сабралася група поўных энтузіязма парафіян на першую рэпетыцыю, каб сваю любоў да Пана Езуса выразіць супольным харавым спевам.**

**а. Браніслаў Дашкевіч** ОР



Былі сярод іх настаўнікі, студэнты і вучні старэйшых класаў, медыкі і прадстаўнікі іншых прафесій. Таксама святары, якія толькі распачалі сваю працу на той момант у парафіі Святой Барбары: а. Міхал Ермашкевіч і а. Браніслаў Дашкевіч. Гэта па іх ініцыятыве адбылася сустрэча. Як яны самі ўспамінаюць, падчас навучання ў Кракаве, у дамініканскай семінарыі, яны настолькі празвычаіліся да літургіі з падтрымкай харавога спеву, што калі прыбылі ў Віцебск, вельмі цяжка было ўявіць святочную Літургію без хору. Іх ініцыятыву блаславіў біскуп Уладзіслаў Блін, у той час ардынарый Віцебскай дыяцэзіі, які раздзяляў упадабанне да харавога спеву і потым праз увесь час свайго служэння быў верным слухачом і мецэнатам хору “HOSANNA”.

Першым кіраўнікам хору стала спадарыня Таццяна Дарафеева, якая ў той час была арганісткай у касцёле Святой Барбары. Рэпертуар быў вельмі просты, часам нават адно- ці двухгаласавы, бо спявалі і непрафесіяналы. Але таксама адразу спрабавалі спяваць на чатыры галасы, таму што ў хор прыйшлі і мужчыны. Гэта дадавала прыгажосці спеву калектыва і заахвочвала рэпеціраваць далей. Ужо ў кастрычніку 2000 года на нядзельнай Імшы калектыў упершыню паспрабаваў свае сілы. Галоўная прэм’ера адбылася на Божае Нараджэнне ў 2000 годзе. Напомню, што Касцёл адзначаў тады вялікі Юбілей 2000-годдзя хрысціянства. Біскуп Уладзіслаў Блін даручыў маладзенькаму хору, пры падтрымцы прафесіянальнага хору з Мінска, упрыгожыць літургію св. Імшы Пастэркі, трансляцыю якой па тэлебачанні бачыла ўся краіна.

Далей, з ініцыятывы біскупа Уладзіслава, мы пачалі выязджаць з канцэртамі ў раённыя цэнтры, з нагоды розных святаў: Шуміліна, Лёзна (парафіяльны фэст), Полацк (калядны канцэрт). А потым і далей: Будслаў (свята Маці Божай), Мінск (калядныя канцэрты з мясцовымі калектывамі). Думаю, што такая актыўная дзейнасць хору ад самага пачатку вельмі дапамагалі калектыву ўзрастаць. З аднаго боку мабілізавалі яго да большай працы, а з другога дазвалялі перажываць падчас выступленняў моцныя эмоцыі, якія аб’ядноўвалі харыстаў.

Ужо ў 2002 годзе хор адважыўся выслаць заяўку на ўдзел ў фестывалі духоўнай музыкі “Магутны Божа” ў Магілёў, які лічыўся міжнародным форумам харавой песні. Трэба было надаць калектыву імя, і так нарадзіўся хор “Hosanna”.

Варта ўспомніць, што з гэтай нагоды прышлося хору таксама набыць канцэртныя строі. Чарговы раз дапамог нам, гэты раз матэрыяльна, біскуп Блін, а праект дызайну падрыхтаваў а. Міхал Ермашкевіч. Як можаце заўважыць на фотаздымках, касцюмы маюць у сабе элементы манаскіх строяў. Часам выклікае гэта гумарыстычныя сітуацыі. Аднойчы ў Варшаве, на вуліцы, калі харысты ў строях падыходзілі ад паркоўкі да касцёла, мінакі абменьваліся сваімі ўражаннямі ў такой форме: “Якія прывабныя манашкі! Ніколі не бачыў манашак з такімі прычоскамі. Вельмі цікава!”

Хор “Hosanna” вярнуўся з фестывалю заўважаным і адзначаным узнагародай. Калектыў паверыў у свае сілы, і адначасова адчыніліся для яго дзверы на шырокія міжнародныя кантакты. Прыйшлі запрашэнні на канцэрты ў Польшчу, на экуменічны, калядны фэстываль у Маскву. У 2006 годзе “Hosanna” паехаў прадстаўляць Беларусь на сцэне фестывалю культур у рамках Дзён Моладзі ў Кёльн, на сустрэчу з Папам Бэнэдыктам XVI.

Важную ролю ў жыцці калектыва выконваюць святары. А. Міхал дапамагае хору ў выбары рэпертуара. Сам здзяйсняў удалыя пераклады некаторых цікавых спеваў з польскай і лацінскай моваў. Дапамагаў вырашаць складаныя сітуацыі, якія ўзнікалі часам у калектыве, размаўляючы з кожным. А. Браніслаў далучыўся да спевакоў і ўзмацняе партыю басовых галасоў, а таксама дапамагае арганізаваць канцэрты. Як важна такая прысутнасць, калектыў зразумеў, калі а. Браніслаў на тры гады выехаў з Беларусі, а а. Міхал перажываў праблемы са здароўем. Жыццё хору як бы замерла... Хор спяваў падчас нядзельнай св. Імшы і на ўрачыстасці, але без супольных выездаў не хапала энтузіязму для далейшай працы.

Удзельнікі хору ўздыхнулі з палёгкай, калі па волі Госпада і настаяцеляў, а. Браніслаў вярнуўся на служэнне ў Віцебск у 2012 годзе. Неба ўзнагародзіла “Hosanna” за “посныя гады” ўдвая. А. Браніслаў падзяліўся з харыстамі сваімі новымі кантактамі за мяжой, у Нямеччыне. Так хор атрымаў запрашэнне на парафіяльны фэст у Мюнхен у 2013 годзе і як дадатковы падарунак, тыдзень адпачынку ў горнай ваколіцы ў Аўстрыі. Калектыву так спадабаліся гэтыя вакацыі, што вярталіся туды яшчэ не раз. Варта дадаць, што харысты не толькі гулялі па тырольскіх горных сцежках, але зладзілі там кантакты з мясцовай парафіяй і актыўна спяваючы, удзельнічалі ў нядзельнай св. Імшы. З гэтай нагоды вывучылі нават некалькі спеваў на нямецкай мове. Аўстрыйцам падабаецца ўсё ж такі і ўсходняя мелодыя. Таму з ахвотай слухалі старыя спевы на беларускай і стараславянскай мовах у касцёле і за сталом.

Вось ужо некалькі год хор ладзіць калядныя канцэрты ў выбраных парафіях Польшчы. Такім чынам час Божага Нараджэння робіцца яшчэ больш святочным. Напаўняецца ўзаемнай гасцiннасцю, новымі знаёмствамі, якія ў некаторых выпадках пераўтвараюцца ў сяброўства. Калядная песня грае ў гэтай сустрэчы важную ролю, бо ажыўляе ў чалавечых сэрцах гатоўнасць любіць. Такім чынам хор наведаў ужо каля 20 парафій, пакідаючы ў падарунак свае прыгожыя творы. Калядныя беларускія і польскія песні запісалі на дыск, каб цудоўнасць гэтага часу пакінуць на памяць.

Хіба прадчуваючы эпідэмію і абмежаванні ў падарожжах, хор у 2019 годзе выбраўся на два фестывалі ў Польшчы. На адным з іх атрымалі трэцяе месца і падчас галаканцэрта хор мог заспяваць ў Базыліцы на Яснай Гары ў Чэнстахове, каля абраза Маці Божай. Калектыў перажыў гэта, як нагоду, каб скласці падзяку Богу і Багародзіцы за ўсе ласкі ўдзеленыя групе, як і кожнаму з харыстаў, за ўвесь час існавання. Біскуп Алег Буткевіч дапамог хору ў здзяйсненні гэтых адважных намераў. Можна сказаць, падобна як і папярэдні біскуп Віцебскі, ён ёсць апорай для нас. Удзячны хор “Hosanna” ніколі не адмаўляецца, калі ёсць патрэба ўпрыгожыць Літургію ў катэдры ці дадаць жывы, спеўны арнамент на тэлебачанні.

Хор “Hosanna” існуе ўжо 20 гадоў дзякуючы таму, што з’яўляецца не столькі спраўнай, прывучанай “прыладай” да спеву падчас святочнай Літургіі ў касцёле, але таму, што вырас у цікавую супольнасць, якую самі харысты называюць вялікай сям’ёй. Важнай часткай калектыву ёсць цяперашні мастацкі кіраўнік і дырыжор Святлана Шыдлоўская. Яна не толькі выдатна выконвае свае функцыі, але і шчыра любіць сваіх харыстаў.

Сёння хор налічвае 25 асоб, а на першай рэпетыцыі было ўсяго 15. Хор змяняецца ў складзе, але не знікае сямейнае цеплыня ўнутры калектыва. Пра гэта найболей клапоціцца Святлана Генадзьеўна. Яна мае час, каб патэлефанаваць кожнаму, калі не з’явіцца на рэпетыцыі і даведацца ў чым справа, а таксама мае ў сваім календары пазначаныя даты народзінаў кожнага харыста, нават, калі ён, па разных прычынах, часова не ўдзельнічае ў працы хора. Кожны дадае ад сябе штосьці добрае: увагу, дабразычлівасць, усмешку, і ў такім асяроддзі хочацца прабываць, а душы хочацца спяваць! У гэтым і ёсць незвычайнасць хору “Hosanna”. Да калектыву належаць і цэлыя сем’і, а таксама сярод харыстаў стварылася адна сям’я. Іхнія дзеці, як другое пакаленне спяваюць ужо як салісты. Таму ажывае надзея, што хор можа дачакацца і чарговых юбілеяў!

Усім, хто спяваў у хоры за гэтыя 20 год, хто дапамагаў і супрацоўнічаў з намі і таксама ўсім слухачам – вялікая падзяка. Дзякуючы Вам і Божаму Духу створаны і жыве хор “Hosanna”, які часам бывае Божай прыладай, праз якую ўсемагутны Пан удзяляе свае дары.





# У Дзеркаўшчыне развіталіся з ксяндзом Леанідам Мозгелем

**Пробашч парафіі Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне адышоў да Пана 9 лістапада, за дзень да гэтага памерла яго маці – спадарыня Станіслава Мозгель.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

На Глыбоччыне ксёндз служыў крыху больш года, да гэтага былі парафіі ў Ветрыне, Фарынаве, Блізніцы, Бягомлі, Паваўцы і Ідолце. Меў 17 год святарства.

11 лістапада развітацца з сабратам прыехалі святары з Глыбоцкага дэканату, да якога апошні год спачылы належыў, а таксама з іншых парафій Віцебскай і Гродзенскай дыяцэзій. Пахавальную Імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч. Ён дзякаваў Богу за дар жыцця і пакліканне ксяндза Леаніда, за тыя ласкі, якія Бог праз яго рукі ўдзяліў вернікам.

У гаміліі біскуп Алег выказаў смутак з прычыны заўчаснай смерці. "Нечакана і вельмі балюча. Малады святар, 52 гады. Можна шмат разважаць чаму так сталася, але напэўна ведаем, гледзячы вачыма веры на гэту сітуацыю, усім кіруе Пан Бог".

Кажучы пра крызіс пакліканняў у сучасным свеце, іерарх заахвоціў вернікаў пры труне пробашча ў сваіх сэрцах абудзіць жаданне і малітву з просьбай аб новых пакліканнях да святарства. "Спадзяёмся, што ксёндз Леанід будзе ў гэтым нашым заступнікам, будзе выпрошваць і на сваё месца, каб было каму яго заступіць у такой важнай і цяжкай справе святарскай паслугі."

Віцебскі ардынарый у сваім слове ўзгадаў і спачылую маці Станіславу, якая дала жыццё будучаму святару, а на дарозе пакліканне была тым чалавекам, які дапамог адкрыць гэты вялікі дар у сэрцы сына. "Святарства нараджаецца ў сям'і і там распачынае ўжо сваю фармацыю на гэтай дарозе. Святарская заслуга кс. Леаніда вялікая, але не меншая ў гэтым заслуга і яго маці. Гэта сціплы святар, якога спакойна можна назваць місіянерам. Нарадзіўся на Гродзеншчыне, але служыць прыехаў на ўсход краіны – Ветрына, Фарынава. Распачынаў свой святарскі шлях на духоўнай цаліне, але ніхто і ніколі не чуў ад яго слоў наракання."

На заканчэнне Эўхарыстыі словы спачуванняў парафіянам і падзякі за сціпласць і паслухмянасць спачыламу святару выказалі кс. Міхал Станчук, які быў яго першым пробашчам у 2006 годзе ў Фарынаве, дэкан Глыбоцкі кс. Мікалай Ціхановіч і дэкан Мёрскі, а ў мінулым папярэдні пробашч у Дзеркаўшчыне, кс. Андрэй Кулік. Кс. Андрэй сказаў, што мёрскія парафіяне з вялікім смуткам прынялі навіну аб смерці і духоўна далучаюцца да малітвы і памяці, бо не так даўно, ксёндз Леанід нёс Божае слова на мёрскай зямлі.

Пасля Імшы труна з целам ксяндза Леаніда была вынесеная з храма да рытуальнай машыны, дзе адбылася развітальная малітва, а затым труны святара і яго маці перавезлі на радзіму – у Старыя Васілішкі, дзе і адбылося пахаванне 12 лістапада.

Вечны адпачынак дай ім, Пане!




# Тэст на Адвэнт

## Прыпомніце галоўныя падзеі з Нараджэння нашага Збаўцы



**У Касцёле распачынаецца новы літургічны перыяд году – Адвэнт. Час асаблівай падрыхоўкі да прыйсця Збаўцы.**

**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" падрыхтаваны па матывах 2 главы з Евангелля ад Лукі. Адказваючы на пытанні тэста, вы прыпомніце сабе галоўныя падзеі з Нараджэння нашага Збаўцы Езуса Хрыста. Запрашаем праверыць свае веды!**

1 Ад каго выйшаў загад зрабіць перапіс па ўсёй зямлі?



**А.** Ад цэзара Калігулы
**Б.** Ад цэзара Клаўдзія
**В.** Ад цэзара Аўгуста

2 Які па ліку быў гэты перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі?



**А.** Першы
**Б.** Другі
**В.** Трэці

3 З якога горада і якой краіны выйшлі Юзаф з Марыяй, каб запісацца ў горадзе Давідавым?



**А.** З Бэтлеему Галілеі
**Б.** З Бэтлеему Юдэі
**В.** З Назарэту Галілеі

4 Колькі анёлаў абвясціла пастухам пра нараджэнне Збаўцы ў Бэтлеемскай стайні?



**А.** Мноства
**Б.** Два
**В.** Адзін

5 Анёл сказаў пастухам: "Вось вам знак". Аб якім знаку ішла гаворка?

**А.** З'явіцца войска нябеснае і заспявае "Хвала на вышынях Богу..."
**Б.** Знойдзеце немаўля спавітае і пакладзенае ў яслях
**В.** Сустрэнеце зорку, якая пакажа шлях да Збаўцы

6 Марыя захоўвала словы пастухоў, разважаючы іх:

**А.** У сваім сэрцы
**Б.** У сваёй душы
**В.** Запісвала ў свой духоўны дзённік

7 Праз колькі дзён Езусу далі імя?



**А.** 7
**Б.** 8
**В.** 9

8 Як звалі чалавека, якому было прадказана Святым Духам, што не памрэ, пакуль не ўбачыць Месію?



**А.** Саламон
**Б.** Сімяон
**В.** Натанаэль

9 Праз колькі дзён Юзаф і Марыя знайшлі ў святыні дванаццацігадовага Езуса?



**А.** Праз дзень
**Б.** Праз тры дні
**В.** Праз тыдзень

10 Што рабіў дванаццацігадовы Езус у святыні?



**А.** Маліўся
**Б.** Служыў пры святыні
**В.** Быў сярод настаўнікаў, слухаючы іх і пытаючыся ў іх

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

Правільныя адказы на старонцы 12

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

**Пакой для малітвы**

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова. Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Каляндар на снежань



**У літургічным каляндары 29 лістапада распачынаецца час адвэнту.**

Адвэнт (ад лац. Adventus - прышэсце) – час радаснага чакання на нараджэнне Збаўцы Езуса Хрыста. Гэта багаты сімволікай чатырохтыднёвы перыяд падрыхтоўкі да святаў Божага Нараджэння, які скіроўвае нашыя думкі на паглыбленае перажыванне канчатковага прыйсця Езуса Хрыста ў хвале. Кожная нядзеля Адвэнта прысвячаецца пэўнаму ўспаміну, якому адпавядаюць евангельскія чытанні падчас святой Імшы: першая нядзеля прысвечана будучаму прыйсцю Езуса Хрыста ў канцы часоў, другая і трэцяя – Яну Хрысціцелю, чацвёртая – падзеям, якія непасрэдна папярэднічалі нараджэнню Сына Божага і асаблівай ролі Панны Марыі ў таямніцы Богаўцелаўлення. З Адвэнтам у Касцёле таксама распачынаецца новы літургічны год.

**8 снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**



Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Усходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэтая ўрачыстасць лічыцца абавязковай.

**25 снежня – урачыстасць Нараджэння Пана.**



Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюць нечаканых гасцей. Асаблівую атмасферу вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да святаў. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае браць пастановы, у парафіях таксама адбываюцца адвэнтовыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.

**26 снежня – свята св. Стэфана, першамучаніка.**



Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога" ён абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супрацьстаяць. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал дасканалага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – свята Святой Сям'і: Езуса, Марыі і Юзафа.**



Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалейшай сям'ёй і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – выдатны прыклад для кожнага бацькі: працавіты, разважлівы, заклапочаны домам. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца ідэалам найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

**28 снежня – свята святых Немаўлят, мучанікаў.**



Урачыстаць гэтая адзначаецца ў гонар нявінных дзяцей, забітых у Бэтлееме па загадзе Ірада, яўрэйскага караля. Здарэнне апісана ў Евангеллі (Мц 2, 13- 18).

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 снежня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**7 снежня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Навапалацк)*;

**8 снежня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**11 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, **імяніны** адзначае **а. Вальдэмар Куява OFMconv** *(Удзела)*, **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**14 снежня** – **імяніны** адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**17 снежня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Аляксандр Шаўцоў** *(Полацк)*;

**16 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталій Галец** *(Ушачы)*;

**24 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*; **імяніны** адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**25 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**27 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Віталій Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Вернікі з Валкалаты**, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Людвіна Ушкевіч** *(Гродна)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Вольга Мяфодзьева** *(Чашнікі)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Падалевіч Г.А.** *(Бігосава)*, **Вольга Цімафеева** *(Янковічы)*, **Мар'ян Шляга** *(Драгічын)*, **Данута Міхайлоўская** *(Мураваная Ашмянка)*, **Марыя Казакевіч** *(Відзы)*, **Аліна і Анатоль Пярхальскія** *(Глыбокае)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Жанна Сакалоўская** *(Камень)*, **Галуза Г.А.** *(Падсвілле)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Генадзь Лапушынскі** *(Коўзаны)*, **Людміла Страчынская** *(Івянец)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Антона Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Тацяна Сапель** *(Браслаў)*, **Ада Шумская** *(Навапалацк)*, **Тэрэса Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Іваноўская К.К.** *(Ярава)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Зоф'я Скукоўская** *(Мосар)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Ірына Сіманенкава** *(Мосар)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Яніна Скаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Яна Кукліна** *(Баравуха)*, **Марыя Ткачонак** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына)*, **Ядвіга Цорах** *(Мілты)*, **Зінаіда Дуброўская** *(Нагаўкі)*, **Міхаіл Дуброўскі** *(Нагаўкі)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Фалевіч С.Л.** *(Камарова)*, **Тэрэса Смулько** *(Зорка)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Эльвіра Радкоўская** *(Маладзечна)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Яніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Пашкевіч Э.В.** *(Бігосава)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі)*, **Салаўёва Н.Н.** *(Дворнае Сяло)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Грэцкая С.І.** *(Вазоўнікі)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф'янава)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Марыя Сяліцкая** *(Параф'янава)*, **Марыя Рагіня** *(Стары Двор)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Сцепаніда Лупач** *(Заваранты)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Роля святара ў нацыянальным адраджэнні беларускага народа паводле кс. Адама Станкевіча

**Справа беларускага нацыянальнага адраджэння ў пачатку XX стагоддзя дасягнула неверагодных поспехаў. За даволі кароткі час з'явілася пляяда творчых, таленавітых і адданых беларускай справе людзей, якія стваралі суполкі, гурткі, перыядычныя выданні дзеля працы на карысць павышэння культурнага ўзроўню народа і яго самасвядомасці.**

**кс. доктар Юрый Дрозд**, *г. Брэст*



Але ў параўнанні з суседнімі народамі беларусы, канечне ж, адставалі ў галіне рэалізацыі нацыянальнага праекту. Шмат працы было яшчэ наперадзе. Гэта цудоўна разумеў выдатны дзеяч беларускага хрысціянскага адраджэння кс. Адам Станкевіч (1891 – 1949). Як святар ён клапаціўся, каб адраджэнне народа было не толькі палітычным або культурным, але таксама і духоўным. На яго думку, істотны ўклад у вырашэнне гэтай задачы маглі б і павінны былі б унесці святары.

Станкевіч лічыў, што незалежна ад канфесійных падзелаў духоўныя асобы мусяць рабіць усё, што ў іх сілах, для дабра беларускага народа. Пра гэта святар пісаў яшчэ ў 1920 годзе на старонках аднаго з нумароў газеты "Крыніца": *"Ксяндзы і папы, працуючыя ў Беларусі, павінны стаца сапраўднымі айцамі духоўнымі беларускага люду. Яны мусяць працаваць дзеля таго, каб люд гэты ня быў жабраком і папіхачам у сваім краі, але каб паволі пачаў будаваць сабе Дом-Бацькаўшчыну і каб каваў сабе лепшую долю"*. Вядома, што Адам Станкевіч быў патрабавальным перадусім да самога сябе. Вельмі блізкімі яму былі погляды выдатнага рускага філосафа Уладзіміра Салаўёва (1853 – 1900). Так, гэты мысляр у лісце "Як абудзіць нашыя царкоўныя сілы?" заклікаў духавенства адкінуць дэвіз "Пражывём як небудзь" і вызваліць "прастор для свабоднай барацьбы, для подзвігаў розуму і духу".

Ксёндз Адам Станкевіч з надзеяй глядзеў на ўсё духавенства, якое магло б прычыніцца да высакароднай справы беларускага нацыянальнага будаўніцтва. Ахвотных ісці гэтым шляхам занадта шмат не было. Напрыклад, у праваслаўным асяроддзі беларускі рух быў вельмі слабы. Толькі лічаныя прадстаўнікі (і то пераважна свецкія асобы) заўважалі вострую неабходнасць кансалідацыі грамадства вакол нацыянальнай ідэі. Значна лепш сітуацыя выглядала сярод каталіцкага духавенства.

Беларускі рух можна было назіраць ужо ў духоўнай семінарыі ў Вільні на пачатку XX стагоддзя. Адтуль выйшла нямала прадстаўнікоў беларускага каталіцкага адраджэння. Будучы клерыкам, Адам Станкевіч у 1911 годзе заснаваў сярод семінарыстаў беларускае кола, у якое ўваходзілі Язэп Рэшаць, Францішак Аляшкевіч, Андрэй Цікота, Аляксандр Аўгустыновіч і інш. Станкевіч пазней успамінаў, што рэктар семінарыі з вялікай асцярогай глядзеў на гэту дзейнасць, баючыся, што беларускія настроі студэнтаў дзяржаўныя ўлады тагачаснай Расійскай імперыі паспрабуюць скіраваць супраць Касцёла. *"На гэта пачуў рэктар ад мяне адказ,* – пісаў потым ксёндз Адам Станкевіч у кнізе "Беларускі хрысціянскі рух," – *што семінарысты-беларусы імкнуцца да таго, каб з беларускага адраджэння была для Касцёла карысць, а ня шкода. З боку ж Расеі таксама няма небяспекі з прычыны беларускага адраджэння, бо яно не злучае беларусаў з Расеяй, а раздзяляе, і што ў будучыні праз адраджэнне народнае Беларусь праваслаўная лягчэй можа дайсці да згоды з Каталіцкім Касцёлам".*

Адным з пачынальнікаў беларускай справы ў Касцёле Станкевіч лічыў ксяндза-каноніка Францішка Грынкевіча (1884 – 1936). У пачатку XX стагоддзя ён служыў у гродзенскім касцёле Узвышэння Святога Крыжа. Кс. Грынкевіч незадоўга да пачатку Першай сусветнай вайны арганізаваў беларускі моладзевы гурток "Хатка", з якога выйшла нямала пазнейшых беларускіх грамадскіх дзеячаў. Адам Станкевіч высока ацэньваў працу ксяндза-каноніка, але адначасова не пашкадаваў для яго і крытыкі, бо пасля вайны Грынкевіч не праяўляў больш такой актыўнасці, як раней.

Пасля падзей Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года назіраўся асаблівы ўздым прабеларускіх настрояў у святарскім асяроддзі: 24 – 25 мая адбыўся з'езд ксяндзоў-беларусаў у Мінску, ішло арганізацыйнае афармленне беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху. Ахвярна працавалі маладыя ксяндзы: Уладзіслаў Талочка, Люцыян Хвецька, Францішак Будзька, айцец Баляслаў Пачопка і інш. Кс. Талочка на беларускай канферэнцыі ў Вільні, якая праходзіла ў катэдральным касцёле ў канцы студзеня 1918 года, прамовіў наступныя словы: *"З матэрыяльнага пункту беларуская справа – малакарысны інтарэс. Тым болей яна дарага для мяне. Беларускаму народу за яго вернасць Касцёлу, запячатаную крывёю яго сыноў, народу, жыццё каторага дагэтуль было такое сумнае, сапраўды належыцца з боку каталіцкіх ксяндзоў вялікшая апека, як тая, якую мы бачым да апошніх дзён".* Адам Станкевіч трапна падсумаваў вынікі гэтага кароткага перыяду так: *"Беларусы-каталікі, як бачым, у гэтым часе не драмалі і шторaз больш развівалі працу нацыянальную і рэлігійную".*

Яркім прыкладам любові да народу, на думку кс. Адама Станкевіча, быў славуты беларускі каталіцкі святар і паэт Казімір Сваяк (1890 – 1926), вядомы таксама пад псеўданімам Кастусь Стэповіч. Ён заўчасна пайшоў з гэтага жыцця па прычыне хваробы, але пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну. У некалькіх нумарах часопіса "Хрысціянская думка" за 1931 год Станкевіч напісаў шэраг артыкулаў, у якіх абагульніў погляды ксяндза-паэта. Ксёндз Адам адзначыў: "Сваяк, узвышыўшыся на недасягальныя для звычайнага чалавека вышыні хрысціянскай навукі, узброіўшыся ў святло Хрыстова, аглядае ўсю пакутную Беларусь і на агульных хрысціянскіх падставах з сілай выдатнага даследчыка і мысліцеля снуе думкі аб вызваленчай ідэалягічнай падарожы беларускага народу, сынтэзуючы ў адно суцэльнае і стройнае ўсё тое, што беларусу прыгодна, што вядзе яго да вызвалення".

У часы двух міжваенных дзесяцігоддзяў у Заходняй Беларусі з'явіўся шэраг іншых духоўных асобаў, якія арганічна спалучалі беларускія патрыятычныя погляды і служэнне на хвалу Богу і людзям. Праўда, як адзначаў беларускі вучоны Іван Трацяк у манаграфіі *"Беларускае каталіцкае духавенства ля вытокаў сацыякультурнай ідэнтыфікацыі"* (Гродна, 2013), іх таленты і здольнасці былі не заўсёды запатрабаванымі ў Касцёле. Тым не менш гэтыя святары далі моцны штуршок развіццю беларускай нацыянальнай свядомасці. Кс. Адам Станкевіч надаваў вялікае значэнне дзейнасці святароў у працэсе фармавання беларускай ідэнтычнасці. Гэта не быў нейкі рамантычны погляд. Святары прымалі актыўны ўдзел у нацыянальных рухах і ў многіх іншых частках свету. Гэта зусім невыпадкова. Беларускі народ у большасці сваёй быў вясковым і ў штодзённым жыцці часцей кантактаваў са святаром, чым, напрыклад, са школьным настаўнікам. Святар быў у пэўным сэнсе медыятарам, які даваў народу магчымасць дакрануцца да набыткаў высокай культуры, нярэдка абараняў годнасць і інтарэсы простага люду перад чыноўнікамі і землеўласнікамі.

Ад духавенства залежала сапраўды вельмі многа. З аднаго боку, трэба было развіваць справу нацыянальнага адраджэння, а паралельна з гэтым будаваць грамадства, чальцы якога будуць здольнымі да ўзаемнай павагі, свабоднымі ад стэрэатыпаў і салідарнымі ў змаганні за лепшую будучыню. Бясспрэчна, што кс. Адам Станкевіч, яго папярэднікі і паплечнікі ў святарскім служэнні зрабілі ў гэтым кірунку многае, пакінуўшы нашчадкам падрыхтаваную прастору для далейшай дзейнасці.



***Пра аўтара:** Юрый Дрозд нарадзіўся ў 1985 г. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка (2007). Магістр гісторыі (2008). У 2014 г. скончыў Міждыяцэзіяльную вышэйшую духоўную семінарыю імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. Магістр тэалогіі (2014), доктар тэалогіі (2020). Працуе ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў г. Брэсце. Дырэктар катэхетычнага каледжа імя З. Лазінскага ў Баранавічах.*




**Дзіцячы прытулак. Вільня, 1920 год.**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*12 лістапада пробашч катэдральнай парафіі **кс. Валерый Орсік** адзначае 15-годдзе святарскага пасвячэння.*

*Паважаны ксёндз Валеры!*

*Шчыра віншуем Вас з прыгожай гадавінай святарства! Дзякуем, што адгукнуліся на Божае пакліканне і абралі складаны, але высакародны святарскі шлях. Жадаем, каб кожная святыня, у якой Вам давядзецца служыць, станавілася для Вас утульным домам, а кожная парафіяльная супольнасць — сапраўднай сям'ёй. Няхай Пан Бог кіруе Вашым жыццём і натхняе на вялікія справы! Моцнага здароўя Вам, бадзёрасці і аптымізму!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага, г. Віцебск***

## Хвала Хрысту!

### Паважаны наш ксёндз Сяргей Сурыновіч!



*Сардэчна віншуем Вас з чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (11 лістапада).*

*Ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў духа Святога, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення, цярплівасці, шчодрага плёну на ніве Пана! Няхай міласэрны Бог благаслаўляе Вас на новыя справы і няспынна аберагае ў служэнні Езусу, Касцёлу і людзям! Няхай Маці Божая і Дух Святы напаўняюць Ваша Жыццё верай, надзеяй і любоўю!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем **ксяндза Сяргея Сурыновіча** з чарговай гадавінай святарскага пасвячэння.*

*Паважаны ксёндз Сяргей, шчыра жадаем Вам Божай ласкі на кожны дзень, моцнага здароўя, шмат сіл і цярплівасці, здзяйснення ўсіх мараў! Хай Найсвяцейшая Маці ахіліць Вас сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, а Святы Дух няхай асвятляе дарогу, па якой мы ідзем разам з Вамі!*

*Дзякуем Вам за добрае сэрца, за малітву, за цярплівасць да нас, за Божае слова, якім напаўняеце нашы сэрцы.*

***З павагай і любоўю, вернікі капліцы Св. Юзафа ў Друйск***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!
## Шаноўны ксёндз Уладзіслаў Лазар!



*З нагоды Дня нараджэння шчыра віншуем Вас і жадаем дароў Духа Святога, апекі Найсвяцейшай Маці Божай і Анёла-ахоўніка Вам і Вашым родным. Моцнага здароўя, даўгалецця, каб дарога Вашага жыцця заўжды была роўнай, гладкай і асвячалася Божым нябесным святлом. Жадаем не спыняцца на дасягнутым, а пастаянна ісці наперад і несці людзям Веру, Надзею і Любоў. Вялікі дзякуй Вам за дабрыню, за добрыя словы падтрымкі ў цяжкія хвіліны, малітву і абвяшчэнне Божага слова. Няхай Пан Бог дае Вам сілы і мудрасць для пастырскага служэння, адорвае шчодрымі ласкамі, каб Вы і надалей годна неслі святло Праўды.*

***З малітвамі і найлепшымі пажаданнямі, вернікі касцёла Святых Пятра і Паўла (в.Камень, Валожынскага р-н, Мінскай вобласці)***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – А; 3 – В; 4 – В; 5 – Б; 6 – А; 7 – Б; 8 – Б; 9 – Б; 10 – В

## Хвала Хрысту!

*30 лістапада імяніны ў нашага **ксяндза-пробашча Андрэя Куліка**.*

*Шаноўны наш ксёндз Андрэй, жадаем Вам моцнага здароўя, каб доўга служылі людзям, цярплівасці на святарскім шляху.*

*Выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу ў нашай парафіі. Няхай Пан Бог блаславіць кожны момант Вашага жыцця!*

***Вернікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця НПМ і Язафата Кунцэвіча***

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем паважанага і любімага **ксяндза-пробашча Андрэя Бульчака** з імянінамі (30 лістапада).*

*Жадаем Вам, ксёндз Андрэй, добрага здароўя і поспехаў у пабудове нашай новай святыні, плённай працы на Божай ніве, апекі Маці Божай. Няхай Ваш нябесны апякун апостал Андрэй заўсёды будзе побач!*

*Ад усіх нашых сэрцаў дзякуем Вам за адданасць нашаму касцёлу, за цудоўныя казанні, за шчырае і добрае сэрца, за павагу да вернікаў.*

***З малітвамі за Вас, любоўю і павагай – вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах***

## Шаноўны ксёндз Чэслаў Куцмеж!



*Вернікі касцёла святога Антонія Падуанскага ў Паставах віншуюць Вас з днём нараджэння.*

*Шчыра дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага Слова, за змястоўныя і глыбокія казанні, за ўдзеленыя сакраманты, за тлумачэнне Бібліі на занятках біблійнай групы. Нізка кланяемся і дзякуем Вам за 30 год ахвярнай працы і служэнне народу Беларусі.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, дароў Духа Святога, апекі Маці Божай. Мы любім Вас, мы молімся за Вас.*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз Генадзь Ляўкоў**, віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Зычым апекі ўсіх святых і Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень, дароў Святога Духа, моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

*Памятаем пра Вас і горача молімся. Няхай гэты дзень 19 лістапада будзе для Вас самым шчаслівым і прынясе перамены ў Вашым жыцці!*

***Удзячныя парафіяне Друсвяцкай парафіі (Браслаўскі р-н)***



## Хвала Хрысту!
## Шаноўны ксёндз Алег Півавар!



*Ад усяго сэрца віншуем Вас з чарговай гадавінай Святарства і Днём нараджэння!*

*Жадаем Вам у кожную хвіліну жыцця дапамогі Пана Бога, апекі Маці Божай, здароўя, духоўных сіл.*

*Віншуем, дзякуем, паважаем і любім!*

***Вернікі парафіі Святога Яна Хрысціцеля, м. Валкалата***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем словы віншавання і вялікай удзячнасці нашаму былому пробашчу **ксяндзу Алегу Півавару**, які 6 лістапада адзначыў Дзень нараджэння, а 12 лістапада – дзень святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Алег, сардэчна віншуем Вас! Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, Божага благаслаўлення, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства, добразычлівых людзей, гатовых заўсёды прыйсці на дапамогу. Няхай Дух Святы апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, шчасце і супакой госцяць у Вашым доме! Няхай Маці Божая нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам і прытуляе да свайго сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Мы заўсёды памятаем Вас, дарагі ксёндз Алег, і кожны дзень молімся за Вас.*

*Шчасці, Божа, Вашым бацькам за сыноў-святароў!*

***Данута Голубева ад імя ўсіх парафіян касцёла Святога айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

### Шаноўны ксёндз-пробашч Алег Півавар!

*Ад шчырага сэрца віншуем Вас з днём нараджэння (6 лістапада) і з пятнаццацігоддзем святарскага пасвячэння (12 лістапада).*

*Мы дзякуем Вам за абвяшчэнне Божага слова, за кожную Эўхарыстыю, споведзь, малітву, благаслаўленне, за цеплыню і добразычлівасць, за павагу да кожнага чалавека, за тое, што Вы разам з намі.*

*Няхай Ваша здароўе будзе моцным, вера – непахіснай, з твару няхай не сыходзіць усмешка, у сэрцы заўсёды пануе радасць, а сонечныя прамяні Божай міласэрнасці асвячаюць штодзённае пастырскае жыццё.*

*Няхай добры Езус валадарыць у Вашым сэрцы, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Анёл-ахоўнік засцерагае ад усялякага зла.*

*Заставайцеся назаўсёды такім пазітыўным, адкрытым для ўсіх вернікаў чалавекам, добрым дарадчыкам і апекуном.*

***З любоўю і павагай, вернікі капліцы св. Антонія Падуанскага вёскі Гарадзішча Докшыцкага раёна***




## Особенные дети

Особенные дети,
Особенный их мир.
Будь подобрее с ними,
Для них ты как кумир,
В каком то здравом смысле
Ты просто элексир.
Особенные дети –
От нас не надо сплетен,
Сложите все в пакетик
И выбросьте на ветер,
Ведь ты же добродетель,
Благоприятен детям,
Которых ты однажды
Случайно заприметил
Особенные дети,
Особенный их взгляд,
И мы за них в ответе
И в сумасшедшем бреде,
И в ласковой беседе.
В лучисто-ярком свете
Теплом твоим согреты –
Особенные дети....

***Дана Матушева**, г. Глубокое*

# Veni, Emmanuel!

**Адвэнт. Самы таямнічы перыяд літургічнага году, чаканне прыйсця Збаўцы, поўнае надзеі і адначасова напружання паміж "ужо" і "яшчэ не". Гэты настрой дасканала адлюстроўвае сусветна вядомы гімн *Veni, Emmanuel!* (Прыйдзі, Эмануэль!) Ён цудоўным чынам выказвае сутнасць адвэнтавай літургіі, нашу тугу па Збавіцелю, заклікаючы: "Прыйдзі, Пане Езу! *Veni! Maranatha!*"**

**с. Дар'я Галубкова OV**

Паходжанне старажытнага гэтага гімну дакладна невядомае, але імаверна ён з'явіўся каля дванаццаці стагоддзяў таму. Тэкст гімну з'яўляецца перафразай сямі адмысловых антыфонаў да песні Марыі *Magnificat*, якія ўжываюцца ў адвэнтавых нешпарах (вечаровай малітве) рымска-каталіцкага абраду з 17 па 23 снежня. Пасля 1970 года антыфоны таксама сталі выкарыстоўвацца ў спевах перад Евангеллем (Аллелюя) падчас Літургіі Слова ў апошнія дні Адвэнту.

Антыфона (з грэч. "той, які туруе, гучыць у адказ") - гэта рэфрэн, які выконваецца перад і пасля псальму ці спеву ў хрысціянскай літургіі. Назва паходзіць ад звычаю выканання літургічных тэкстаў на два хоры, папераменна. Так званыя "Вялікія Антыфоны" Адвэнту вядомыя таксама як Антыфоны "О". Яны пачынаюцца з тужлівага выклічніка "О" і аднаго з тытулаў Збавіцеля: *O Sapientia, O Adonai, O Radix Jesse, O Clavis David, O Oriens, O Rex Gentium, O Emmanuel*. (О Мудрасць, О Аданай (Госпад), О Корань Эсея, О Ключ Давідаў, О Усход, О Валадар Народаў, О Эмануэль). Адвэнтавае чаканне дасягае ў іх свайго піку. Цікава, што першыя літары тытулаў Езуса Хрыста, калі чытаць на лацінскай мове ад канца да пачатку, ствараюць акраверш *ERO CRAS*, што азначае "Я буду (прыйду) заўтра". Пан Езус, да прыйсця Якога мы рыхтуемся ў Адвэнце і да Якога звяртаемся ў Вялікіх Антыфонах, цяпер ужо запэўнівае нас, што хутка прыйдзе. Такім чынам, Антыфоны "О" не толькі прыўносяць інтэнсіўнасць у нашу адвэнтавую падрыхтоўку, але і вядуць яе да радаснага завяршэння.

Кожны з тытулаў Езуса адносіцца да прароцтваў Ісаі аб прыйсці Месіі.

**Мудрасць**: "І спачне на ім Дух Пана, дух мудрасці і розуму" (Іс 11,1).

**Аданай** (Госпад, Пан): "Бо Пан – наш суддзя, Пан – наш заканадаўца, Пан – валадар наш; Ён збавіць нас" (Іс 33,22).

**Корань Эсея**: Эсей быз бацькам караля Давіда, з роду якога паходзіць Езус Хрыстус. Прарок Ісая гаворыць пра Месію: "І выйдзе парастак з корня Эсея" (Іс 11,1), і што ён стане як знак для народаў (пар. Іс 11,10).

**Ключ Давіда**: "І ключ дому Давіда ўскладу на рамёны яго; ён адчыніць, і ніхто не зачыніць; зачыніць ён, і ніхто не адчыніць" (Іс 22,22).

**Усход**: "Народ, які ходзіць у цемры, убачыць святло вялікае; над жыхарамі краіны смяротнага ценю заззяе святло" (Іс 9,2). І ў іншым месцы: "Паўстань, ззяй, Ерузалем, бо прыйшло святло тваё, і слава Пана ўзышла над табою" (Іс 60,1).

**Валадар Народаў**: "Бо дзіця нарадзілася нам – Сын дадзены нам; валадарства на плячах Ягоных, і дадуць імя Яму: Цудоўны Дарадчык, Бог моцны, Валадар вякоў, Князь супакою" (Іс 9,6).

**Эмануэль** (азначае "Бог з намі"): "Пан сам дасць вам знак: вось, Дзева зачне ва ўлонні і народзіць Сына, і дадуць імя Яму: Эмануэль" (Іс 7,14).

У гімне *Veni, Emmanuel!* перафразаваныя антыфоны пераплятаюцца з рэфрэнам-заклікам: *„Gaude, gaude, Emmanuel nascetur pro te, Israel!"* ("Радуйся, радуйся, Эмануэль народзіцца для цябе, Ізраэль!") Хаця, трэбы заўважыць, што ў беларускім тэксце гімну рэфрэн гучыць інакш.

Варта не забывацца пра нашу хрысціянскую спадчыну і ўпрыгожваць адвэнтавую літургію гэтым цудоўным і напоўненым глыбокім сэнсам спевам. Ніжэй вашай увазе прапануецца беларуская версія гімну.




Сасканаваўшы штрых-код, можна праслухаць выкананне гімну ў інтэрнэце на лацінскай мове.

1. Прыйдзі, прыйдзі, Эмануэль,
з няволі вызваль Ізраэль.
Ў зямным выгнанні стогне Ён,
чакае Бога – Сына дзён.
*Хвала, хвала! Эмануэль*
*прыходзіць збавіць Ізраэль!*
2. О Мудрасць вечная, прыйдзі
і розумам нас надзялі.
Лагодна ўсім кіруеш Ты,
бязмежны Творца, Бог Святы.
3. Прыйдзі, прыйдзі, о Аданай,
Ты верным на гары Сінай
у велічы сваёй хвалы
навекі даў закон святы.
4. Эсея парастак, прыйдзі,
народ з няволі выведзі.
З прадоння пекла, з д'ябла рук,
Ты, Божа, вызваль верных слуг.
5. О Ключ Давіда, адамкні
нябёсаў брамы ў вышыні.
Да неба простым шлях чыні,
дарогу ў пекла зачыні.
6. Прыйдзі, прыйдзі, о наш Усход,
узрадуй верны свой народ.
Начныя хмары разгані
і цемру ночы асвятлі.
7. Народаў Валадар, прыйдзі,
Цябе ўсе шчыра прагнем мы.
Збаўлення прагнем, нас злучы
з сабою, Камень вуглавы.





**Адсканўйце сваім смартфонам штрых-код, каб праслухаць выкананне гімну ў інтэрнэце на лацінскай мове.**

**Адсканўйце сваім смартфонам штрых-код, каб праслухаць сучасную апрацоўку гімну ў выкананні дуэту The Piano Guys.**

# Хвала Хрысту!



Парафіяне Павяцкай парафіі і былога Лявонпальскага касцёла Мёрскага раёна з вялікам смуткам успрынялі ашаламляльную вестку аб смерці ксяндза Леаніда Мозгеля і яго мамы – спадарыні Станіславы Мозгель.

Ксёндз Леанід Мозгель пакінуў глыбокі след у сэрцах людзей, якія падкрэсліваюць, што Ён быў для іх бацькам, братам, сябрам, духоўным кіраўніком, спаведнікам. Пробашч быў цудоўным і адкрытым святаром. Ён шмат клапаціўся аб духоўным развіцці парафіян. Заўсёды знаходзіў патрэбныя для людзей словы. Хочацца верыць, што і цяпер ён будзе дапамагаць нам з дому Айца.

Без перабольшвання можна сказаць, што імя ксяндза Леаніда Мозгеля залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю Павяцкага касцёла і аграгарадка Павяцце. Усё, што зроблена ў святыні і на прыкасцельнай тэрыторыі – гэта яго праца, яго задума і кіраўніцтва. З апостальскім энтузіязмам, любоўю, вялікай адданасцю і радасцю браўся за чарговыя задачы, якія Бог ставіў перад ім. Вельмі любіў святарства. Быў удзячны Богу за яго. Заўсёды клапаціўся аб тым, каб літургія была прыгожай. Мы вельмі абавязаны ксяндзу Леаніду. Гэта быў адзіны пробашч, які пастаянна пражываў пры касцёле і клапаціўся аб ім.

У гэты сумны час прыходзяць на памяць пазітыўныя моманты. Успамінаюцца яго казанні, настаўленні і парады. Для усіх нас, вернікаў з Павяцця, Паташні, Лявонпалля, Дэмскіх, Рачнёва, Александрына, Папкі…

Поўны энергіі, шчыры, лады і прыгожы, як анёл з неба, з'явіўся ксёндз Леанід Мозгель ў Павяцкай парафіі 28 чэрвеня 2005 г. Мы дзякуем Богу, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і гаспадара касцёла. Многа сіл ён прыклаў да таго, каб мы сталі адной вялікай сям'ёй, па-сапраўднаму адчулі сілу малітвы.

Ксёндз Леанід пакінуў за сабой добры след. Прадоўжыў добрыя традыцыі правядзення святой Імшы ў навакольных вёсках, на могілках, штогод арганізоўваў удзел парафіян у пілігрымкі да Маці Божай Будслаўскай, да Маці Божай Браслаўскай, у Росіцу. Асабіста праводзіў урокі рэлігіі з дзеткамі ўсіх узроставых груп. Пры ім аднаўлены прыгожы і велічны галоўны алтар Павяцкага касцёла, новае абліччa атрымалі алтар Маці Божай Фацімскай і алтар Святога Крыжа, зроблены катэхетычны клас і закрыстыя, адбудавана пры касцёле плябанія, драўляныя вокны ў касцёле саступілі месца шклопакетам, заменены дзверы, пабудавана новая агароджа вакол касцёла. Ды і тэрыторыя вакол касцёла за час яго служэння набыла эстэтычны выгляд і напоўнілася рэлігійным зместам: была устаноўлена фігура Маці Божай. І гэта далёка не ўсё. Здаецца, зусім нядаўна мы віншавалі ксяндза з залатым юбілеем, а ў чэрвені 2019 года развіталіся ў сувязі з пераводам яго ў Дзеркаўшчыну, складалі найлепшыя і шчырыя пажаданні. Нам здавалася, што ксёндз Леанід заўжды будзе з намі і для нас, але на ўсё воля Бога…

Мы памятаем ксяндза Леаніда як чалавека з бясконцым аптымізмам і рознабаковымі зацікаўленасцямі, з якім можна было пагаварыць на любую тэму. Ён добра ведаў гісторыю, любіў паэзію. Пробашч заўсёды гатовы быў выслухаць, падтрымаць, даць мудрую параду.

На працягу свайго служэння ў Павяцці ксёндз даязджаў у касцёл у Лявонпаль. Гэта быў сціплы, ціхі, чулы святар, які заўважаў душэўны стан кожнага прысутнага ў касцёле чалавека. Ён паказаў прыклад адказнага духоўнага клопату аб простых людзях. Меў вялікае сэрца для людзей і служыў ім з любоўю. Таленавіты святар з добрай і чулай душой, з унутраным гарэннем, натхненнем. І такім ён будзе ў нашай памяці…

Так хацелася б сказаць ксяндзу Леаніду тыя шчырыя словы ўдзячнасці, якіх на жаль так мала сказалі пры жыцці: дзякуем за пастырскую апеку, ахвярнае служэнне ў нашым касцёле на працягу 14 год. Дзякуем за веру, шчодрасць і аддanaсць Богу і Касцёлу.

Хочацца падзякаваць Пану Богу за ксяндза Леаніда Мозгель, якога Усемагутны паставіў на нашым шляху.

Мы дзякуем за яго святарскае сэрца, добрае і любячае, за яго штодзённае служэнне. Дзякуем за яго святарскія вусны, якія абвяшчалі Божае слова — слова Праўды, — а таксама нагадвалі і паказвалі шлях да неба. Дзякуем за яго святарскія рукі, якія ўдзялялі адпушчэнне грахоў, Цела Хрыста і благаслаўлялі. Дзякуем за яго сведчанне ва ўсім святарскім служэнні…

Мы спачуваем усім тым, хто перажывае з-за смерці ксяндза Леаніда Мозгеля і яго мамы Станіславы Мозгель, яго родным, блізкім, яго асірацелым парафіянам з Дзеркаўшчыны, якія страцілі свайго клапатлівага Пастыра.

Словамі малітвы хочам звярнуцца да Пана Бога:

«Вечны адпачынак дай ім Пане, а святло вечнае няхай ім свеціць. Няхай адпачываюць у супакоі вечным. Амэн».

***Вернікі з Павяцкай і былой Лявонпальскай парафій Мёрскага раёна.***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**6 снежня 2020г.**
**II Нядзеля Адвэнту**
***Мк 1, 1-8***

Першы радок з сённяшняга Евангелля з'яўляецца праграмным радком для ўсяго Дабравесця. Што значыць слова "Евангелле"? Яно азначае літаральна: добрая навіна. У старажытнасці добрай навіной называлася нейкая выключная падзея кшталту перамогі над ворагам ці з'яўлення новага ўладара. Калі нарадзіўся будучы імператар Цэзар Аўгуст, хранапісцы так і запісалі :"Добрая навіна для свету". Езус – гэта тая самая добрая вестка, якую чакалі многія пакаленні, і якую запаведалі прарокі. Што азначае імя Езус? Езус – гэта грэцкая форма імені *Ешуа*, што значыць "Бог збаўляе". Такое імя меў ізраільскі правадыр, які ўвёў выбраны народ у абяцаную зямлю. "Хрыстос" азначае памазаны. Гэта таксама грэцкая форма слова Машыах. У старажытным Ізраэлі абрад памазання алеем праходзілі святары, каралі і прарокі. Ведаем, што Езус з'яўляецца і святаром, і каралём, і прарокам-настаўнікам. Таму невыпадкова, што Яго імя само ў сабе ўжо расказвае пра Яго місію. У самым пачатку Евангелля мы чытаем, што Езус – гэта сапраўдны Сын Божы. Гэта ёсць істотная праўда Евангелля. Езус – гэта той самы Месія, якога чакалі пакаленні нашых продкаў. Ён – Збавіцель свету і іншага няма і не будзе. Евангеліст Марк заклікае нас падрыхтаваць дарогу Месіі. Без Хрыста немагчымае ніякае ачышчэнне, ніякая перамена. Нам трэба зрабіць усё магчымае, каб Божая ласка завалададарыла ў нашым жыцці. Голас кліча на пустыні: "Падрыхтуйце дарогу Пану!" Часам трэба прайсці і праз пустыню, праз адзіноту, праз выпрабаванні, каб лепш і больш выразна адчуць і пачуць Бога. Чалавечае светаўспрыманне залежыць ад многіх фактараў, такіх як: уласны вопыт, уплыў акружэння, інфармацыя з розных бакоў. У Адвэнце мы вучымся канцэнтраваць нашую ўвагу на тым, што Божае. Нам патрэбна правільна расставіць прыярытэты ў сваім жыцці, каб Бог быў на першым месцы. Гэта і ёсць раўнанне сцежкі перад Ім, пра якое піша евангеліст Марк.

**13 снежня 2020г.**
**III Нядзеля Адвэнту**
**Ян 1, 6-8.19-28**

Евангелле распавядае нам пра дзейнасць Яна Хрысціцеля, які ў Бэтаніі ля Ярдану прапаведаваў і хрысціў тых, хто выказваў жаданне пакаяцца. Такая дзейнасць не магла застацца незаўважанай і ў гарадах. Таму да Яна прыходзілі і фарысеі, і святары, і левіты. Заўсёды добра, калі чалавек задае пытанні, калі шукае, спрабуе сумленна знайсці адказ. Ян не хаваецца ад пытанняў вучоных людзей. Аднак ён упэўнена сведчыць, што сам не з'яўляецца Месіяй. Ён усяго толькі пасланы, каб сведчыць пра Святло. Сваю ролю ён ацэньвае вельмі сціпла: «я не варты развязаць раменьчык на сандалях Ягоных.» Асоба Яна Хрысціцеля важная не толькі для старажытных Ізраільцянаў, але і для нас. Гэты прарок паказвае, што ў Хрысце канцэнтруецца ўсё вучэнне Старога Запавету. Усе прарокі ўказваюць на Яго. Таму, калі мы хочам лепш зразумець Новы Запавет, нам трэба заглыбіцца ў старонкі і Старога Запавету. Місія прарокаў не скончылася з заканчэннем Старога Запавету. Яна працягваецца і сёння. Бог патрабуе нашага сведчання, каб сведчыць пра Яго. Столькі людзей яшчэ блукае ў цемры і не можа знайсці Святла! Перыяд Адвэнту вучыць нас, якім чынам мы можам яшчэ больш разбудаваць Божае Валадарства. Неабходна сваім жыццём даваць сведчанне аб Хрысце, прыйсця якога мы чакаем. Трэба сёння быць пракокам.

Рака Ярдан



**20 снежня 2020г.**
**IV Нядзеля Адвэнту**
**Лк 1, 26-38**

Перад намі сцэна Звеставання. Анёл Габрыэль прыходзіць, каб абвясціць Марыі аб Яе выключнай ролі ў гісторыі збаўлення чалавецтва. Евангеліст дакладна апісвае месца і час гэтага здарэння. Ён як бы хоча падкрэсліць, што Бог – Валадар і зямлі, і неба, і часу, і прасторы. Нягледзячы на тое, шот Ён стварыў гэты дзівосны Сусвет з мірыядамі галактык і зорак, Ён жадае пасяліцца і ў сэрцы чалавека. "Вітай, поўная ласкі, Пан з табою". Пан з Марыяй і ў Марыі. Таму Яна Найсвяцейшая, Найчысцейшая. Бог вызваліў Яе ад усялякага намёку на грэх. Менавіта таму Марыя – наша магутная заступніца ў барацьбе са злым духам. Ён не мае да Яе ніякага доступу. Таму, калі аддаем нашыя сэрцы Багародзіцы, мы таксама становімся недасяжнымі для пагрозаў д'ябла. Але быць з Богам – гэта азначае і выкананне Яго волі. Часам яна можа быць таямнічай і не да канца зразумелай. У выпадку са Звеставаннем таксама так было. Марыя задае пытанні анёлу, таму што Яна збянтэжылася. "Як станецца гэта?" І вельмі важны яе адказ. "Няхай мне станецца паводле твайго слова." Паставы Багародзіцы – прыклад для нас, хрысціянаў XXI стагоддзя. Выкананне волі Айца Нябеснага – гэта праяўленне пакоры і паслухмянасці. У чым трагедыя паўшых анёлаў? У іх ганарыстасці. Будучы ўсяго толькі стварэннямі, яны хацелі быць як Бог. Яны самі сябе хацелі паставіць у цэнтр свайго існавання. Такі ўласны цэнтрызм мы называем эгаізмам. Ён вельмі моцна замінае чалавеку ў збаўленні. Чытанні з перыяду Адвэнту вучаць нас, як быць паслухмянымі Богу і адкрывацца на другога чалавека.

**27 снежня 2020г.**
**Свята Святой Сям'і**
**Лк 2, 22-40**

З сённяшняга свята і евангельскага паслання мы можам заўважыць адну вельмі істотную рысу, якая так неабходная сучасным сем'ям! Марыя з Юзафам занеслі сваё дзіця Езуса ў святыню, каб прадставіць прад Панам. Дзяцей неабходна прадставіць Пану! Што гэта азначае? Перш-наперш неабходна памятаць маладым бацькам пра сакрамант Хросту. Сёння даволі часта даводзіцца сустракацца з меркаваннем, што дзяцей хрысціць у маленькім узросце не варта, бо яны самі пазней выберуць сабе канфесію, або будуць атэістамі. Такое разуменне ў корне няправільнае. Якраз такі ў самым дзяцінстве дзецям і неабходна даць доступ да Божай ласкі! А цудоўная вандроўка да Нябеснага Валадарства якраз-такі пачынаецца ад моманту Хросту, калі перад чалавекам расчыняюцца брамы раю. Другі момант, які вельмі важны ў выхаванні дзяцей – гэта рэлігійнае выхаванне. Евангельскі тэкст гаворыць: Дзіця ж расло і ўмацоўвалася, і напаўнялася мудрасцю, а ласка Божая спачывала на Ім. Сёння такі вялікі выбар у бацькоў! Ёсць розныя курсы, класы і секцыі, дзе можна запісаць дзіця. І вельмі добра, што сучасныя дзеці развіваюцца ў спорце, музыцы і ў мастацтве. Аднак вельмі сумна, калі катэхеза і ўдзел у Святой Імшы адыходзіць на другі план. Школа і навука не могуць замяніць Божай ласкі! Таму так важна, каб бацькі звярталі ўвагу на выхаванне сваіх дзяцей праз малітву і ўдзел у святых сакрамантах. Каб такое выхаванне было дзейсным, патрэбны і ўласны прыклад. У Свята Святой Сям'і молімся аб сватасць для беларускіх сем'яў!



*Разважанні падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч*





# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

**Заданне № 1.** У Касцёле распачынаецца Новы літургічны перыяд. Гэта час радаснага чакання на прыйсце Збаўцы. Разгадай рэбус і дадайся назву гэтага літургічнага перыяду.




**Заданне № 2.** Дзеці спяшаюцца на Ранатнюю Імшу, але ў заснежанай Беларусі яшчэ цёмна і складана разгледзіць правільную дарогу. Прайдзі разам з дзецьмі толькі тым шляхам, дзе свеціць найбольш ліхтароў і палічы іх колькасць. Спадзяёмся, ты таксама заўсёды ўдзельнічаеш у Ранатах у сваёй парафіі.




**Заданне № 3.** 6 снежня Касцёл успамінае Святога Мікалая – добрага сябра ўсіх дзетак. Ці памятаеш ты, кім ён быў, і што насіў на сваёй галаве? Ці пазнаеш ты Святога Мікалая, калі выпадкова сустрэнеш?

Успомні, як выглядаў Святы Мікалай, і знайдзі яго галаўны ўбор.




**Заданне № 4.** Святы Мікалай вельмі любіў рабіць дзецям падарункі. Паглядзі, як гэта адбывалася і знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.



**Заданне № 5.** У пакоі схавана некалькі падарункаў. Знайдзі ўсе падарункі, якія пакінуў Святы Мікалай для дзяцей.



Кожны год Святы Мікалай прыносіць табе падарунак. Напішы да яго ліст як да свайго сябра!

## ЛІСТ ДА СВЯТОГА МІКАЛАЯ

____________________________
____________________________
____________________________
____________________________
____________________________
____________________________
__________________
__________________
__________________



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# Фіналісты конкурсу на веданне Святога Пісання

У Віцебскай дыяцэзіі завяршыўся Конкурс на веданне Святога Пісання - 2020. На жаль, з-за пандэміі было вырашана адмяніць фінальны этап конкурсу, аднак усе ўдзельнікі, якія прайшлі ў фінал, атрымаюць дыпломы і ўзнагароды. Віншуем дзяцей і іх катэхетаў з выдатнымі вынікамі!

Нагадаем, што арганізатарам Конкурсу з'яўляецца Карытас Віцебскай дыяцэзіі ў рамках праекта "Пазнаём сваю веру", сумесна з Карытас Лінц (Аўстрыя). Сёлета Конкурс адбыўся ўжо другі раз. Тэмай конкурсных заданняў з'яўлялася Кніга Выйсця.

Дзякуем усім дзецям і катэхетам, якія нягледзячы на перашкоды прынялі актыўны ўдзел у Конкурсе! І ўжо цяпер запрашаем на Конкурс на веданне Святога Пісання – 2021!

Спіс фіналістаў Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання - 2020.

| | Дэканат | Прозвішча Імя | Кат. | Парафія | Катэхет |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Віцебскі | Вілінец Вікторыя | 1 | Св. Антонія з Падуі ў Віцебску | с. Мажэна Вельгус |
| 2 | | Федчанкаў Данііл | 1 | | |
| 3 | | Панько Дамініка | 2 | | |
| 4 | | Сарокіна Дзіяна | 2 | | |
| 5 | | Сабуне Дарын | 1 | Св. Уладзіслава ў Віцебску | с. Дар'я Галубкова |
| 6 | | Булыня Антон | 2 | Езуса Міласэрнага ў Віцебску | с. Ёнаша Мровец |
| 7 | Браслаўскі | Рудзь Лізавета | 1 | Нараджэння Маці Божай у Браславе | с. Ірына Папакуль |
| 8 | | Варанчыхіна Сафія | 1 | | |
| 9 | | Пілат Эліна | 2 | | |
| 10 | | Шульгоўскі Міхаіл | 2 | | |
| 11 | | Цыунэль Лізавета | 2 | | |
| 12 | Відзаўскі | Лапушынская Арына | 1 | Св. Станіслава ў Далёкіх | кс. Анджэй Бочар |
| 13 | Глыбоцкі | Даўгалёва Арына | 1 | Святой Тройцы ў Глыбокім | с. Ганна Блышко |
| 14 | | Даўгалёў Яўген | 2 | | |
| 15 | | Сіняўская Паліна | 2 | | |
| 16 | | Гушчонак Максім | 2 | Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў Удзеле | кс. Яўген Шымановіч |
| 17 | Докшыцкі | Обухава Юлія | 1 | Найсвяцейшай Тройцы ў Докшыцах | с. Маргарыта Аўгустын |
| 18 | | Савула Вера | 1 | | |
| 19 | | Піскуновіч Дар'я | 1 | | |
| 20 | | Таразевіч Марыя | 2 | | |
| 21 | | Наўмчык Анастасія | 2 | | |
| 22 | | Грышкевіч Дзмітрый | 2 | Імя НПМ у Параф'янаве | с. Аляксандра Рыбалтоўская |
| 23 | Лепельскі | Кашчэева Дзіяна | 2 | Св. Марыі Магдалены ў Новалукомлі | с. Дар'я Галубкова |
| 24 | Мёрскі | Пальчэх Паліна | 1 | Унебаўзяцця НПМ у Мёрах | Наталля Гарноўская |
| 25 | | Петкун Яна | 1 | | |
| 26 | | Варонька Багдан | 2 | | |
| 27 | | Рубанік Ульяна | 2 | | |
| 28 | Пастаўскі | Гайлюн Дамініка | 1 | Св. Андрэя ў Лынтупах | с. Марыя Шамовіч |
| 29 | | Родзь Дамініка | 2 | | |
| 30 | | Шпынева Анастасія | 2 | | |
| 31 | | Стэльмак Максім | 2 | | |
| 32 | Полацкі | Чабоха Ганна | 2 | Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста ў Наваполацку | с. Марыя Пія Трапачова |
| 33 | | Чабоха Аліса | 1 | | |
| 34 | | Нарэль Аліна | 1 | | |
| 35 | | Пяткевіч Вераніка | 1 | | |
| 36 | Шаркаўшчынскі | Язёнак Максім | 1 | Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне | кс. Генадзь Рэйшэль |
| 37 | | Барыла Данііл | 1 | | |



**с. Дар'я Галубкова**, *дыяцэзіяльны каардынатар.*



## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

**Увага!**

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5792
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 19.11.2020 г. у 08.25
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621
9772224962006
Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь